Інна Дідик-Снарська народилася у місті Полоцьку (Білорусь). Скінчила Новополоцький політехнічний інститут та Полтавський державний педагогічний університет імені В.Г.Короленка. Живе у Полтаві. Працює редактором телебачення обласної державної телерадіокомпанії “Лтава”. Автор близька 150 телевізійних передач та документальних фільмів. Член Спілки письменників Білорусі, Національних спілок письменників та журналістів України. Лауреат літературно-мистецької премії імені Василя Симоненка. Автор поетичних збірок: “Пацеркі”, “Пачакай, мая птушка…”, “Лясная панна”, “Кветка гарынь”, “Дві землі – дві долі”. Вірші Інна пише переважно рідною білоруською мовою, та є в її творчому доробку і україномовна лірика. Поезії Снарської перекладалися польською, російською, румунською, англійською та українською мовами.

**Пачакай, мая птушка...**

* * *

А калі згарбеюць плечы,
А калі знямеюць рукі,
А калі засмягнуць вусны,
А калі здранцвееш ты, –
Ацалеюць толькі крылы –
Дзве магутныя дубровы,
А ў дубровах шчырым словам
Пракавечныя званы.

* * *

Дзверы ў нябёсы
сіберным ветрам схаваныя.
Краты.
За кратамі – цесная хата
наканаваная.
А жаўрукам маім, вершам,
першымі трэба
да дзіўных птушак
сполахам рушыць
на волю,
у неба.
Сполахам,
ззяннем,
песняю ранняй
світанне сустрэць,
а надвячоркам згарэць,
Там, дзе за кратамі – цесная хата.

* * *

Да зары мне чакаць, да зары.
Паміралі радкі і сябры,
Быў бярозы стрыманы плач,
На вакно прылятаў крумкач
І сядаў, быццам родны,за стол,
І складаў свае крылы на дол,
Закалыхваў мяне да пары…

Да зары мне чакаць, да зары.

## Размова

– Птушка самотная,
птушка астатняя,
Дзе твой прытулак, спакой і ачаг?
– Я да нябёсаў падняцца няздатная, –
Чэзне праклён у самотных вачах.

– Кволая птушка,
збаўленне адзінае,
Дзе ты хаваешся ноччу і днём?
– Там, на гарышчы,
дзе кроў журавінамі,
Сонца і ветах агортваю сном.

– Змрочная птушка,
пакутніца дзіўная,
Як мне цябе зразумець і знайсці?
– Дзе па сумётах галінкай рабінавай
Вецер гуляў,
а зламалася ты.

## Калыханка

Смага сушыць, смага душыць,
Смага косы расплятае,
Вецер гоніць,
Неба рушыць…
Мой сыночак засынае.

Смага, смага, дай спакою,
Ты – напятая струна
Над далёкаю ракою…
Баю, сыне, сон – мана.

Баю, сыне, Бай ідзе,
Хмара спіць у барадзе,

Па сцяне, гарэза, лазіць,
Смагу знішчыць, смазе здрадзіць.

Спі, маленькі, заўтра – ранне,
Дождж да сонца на спатканне
Рушыць вунь за той гарою.
Возьме ён і нас з табою.

* * *

Я ляцела здалёк
        наўздагон верасоваму суму
І радкамі пазначыла
        дотык апошняга сну,
Дзе шалёнела неба
        гарачым, раз'ятраным тлумам,
Дзе зубры на дасвецці
        будзілі-радзілі вясну.
Я гукала здалёк
        ацалелыя гнёзды і пожні,
Развітальныя песні
        і жыта пад крыллем буслоў.
Лес стагнаў,
        як знядужаны вязень астрожны,
Ды вятрыска скуголіў,
        зняверaны прыкрасцю слоў.
Я ляцела здалёк...

**Пацеркі**

"Вазьмі гэтыя пацеркі –
яны абароняць ад усякага ліха".
( З народнай казкі)

Мне словы зычыць вешчае пяро
Бязлітасна,
        адчайна і пакутна,
Крумкач прыладзіць правае крыло,
А левае да сэрца ўжо прыкута.
Я палячу у невараць, у скон,

Назад вярнуся з прорвы ўся сівая…
“Цішэй, дачушка,
гэта проста сон”, --
Матуля скажа.
Ветах дагарае.
І пакладзе ў калыску “баю-бай”,
Ды як там спаць,
калі палаюць стрэхі
І птушкі крыламі іх тушаць,
небакрай
Плыве за галавешкамі у рэкі.
Ды як там спаць!
Вяртаюцца буслы
І не знаходзяць хаты і прытулку,
Галосіць хлопчык кволы і малы,
Хто захіне яго
і дасць ратунку?..
Сірочы сон кароткі і жахлівы,
Мінае ноч,
як прывід, як падман…
Усё будзе добра, мама, і шчасліва:
Мне пацеркі твае прынёс груган.

**На ростанях**

Уздыхнула – выдыхнуць не ўмею,
Паляцела – неба не дастаць,
І крывавіць на плячах і веях
Далячынь – засмяглая пячаць.

Б’ецца ў вокны, ў словы яшчэ верыць
І шукае выйсце з апранах…
Ноч-матуля зачыніла дзверы,
Быццам рукі склала на грудзях.

Ноч сівая казку не раскажа,
Толькі будзе гушкаць цішыню,
Кужаль мой з бялюткай цёплай пражы
Паднясе да вешчага агню.

І пачнецца лістапад спачатку –
Лістаграй апошняга “прабач”…
Зноў дарога, зноў брыдзе жабрачка
Да скрыжалі, дзе сядзеў крумкач.

**Беларусі**

Вочы мае – вякі,
Я мяняла вас на шаўкі,
Я мяняла вас на рыззё,
А ў руках – адзін чарназём.

Каб ты срэбрам быў, чарназём,
Я б цябе захінула рыззём,
Загарнула б цябе ў шаўкі, --
Толькі веру маю пакінь!

Я – чарніца гэтай зямлі.
Я – званіца,
            мой звон памяні.
Я – блудніца,
            даруй, не гані,
Не кідай у мяне камяні.

**Вецер**

Белы войнік, чорны мніх,
Замяло снягамі ўсіх,
Зачыніліся двары,
Дзе паснулі ваяры.

Вее, вее вітруган,
Хто схаваўся – той і пан,
Хто да лесу – той і воўк,
Ды і ён ад ветру змоўк.

Сее, сее, сее ноччу
Дождж салёны – крык сірочы.
У сарочках пад дажджом

Крочым, крочым за крыжом.

Моўчкі, моўчкі, мы – краты,
Я сляпая, як і ты.
Я нямая, ён нямы –
Ветрам скутыя грамы.

Жоўты прывід – поўны месяц,
І яго змаглі павесіць.
Ён навец, і ты – навец,
Ён пачатак, ты – канец…

Белы войнік, чорны мніх,
Замяло снягамі ўсіх.

**Вольніца**

Ах, якая вольніца –
Крылаў не падняць.
Напявае воля мне:
«Крылы не баляць».

Не баляць, а цешацца
Небам, як лязом,
Бізунамі свецяцца
Недзе пад гарбом.

Ах, якая вольніца –
Ножык пад рабро.
«Заспяваеш, золатка?» –
Сківіцы звяло.

«Загаворыш, золатка?» –
Ліхаманка б’е,
То сярпом, то молатам
Ды па галаве.

Ах, якая вольніца –
Дурням векаваць.
Разышліся нехрысці,
Некаму сабраць.

**Пачакай, мая птушка...**

Капяжы, капяжы,
ўсё жыццё на мяжы,
Мо хадзіла па самаму краю.
Пачакай, мая птушка,
ў грудзях не дрыжы,
Нам далёка да скону і раю.
Колькі сіберны вецер
нам крылле ламаў,
Працінаў то знявагай, то здрадай,
А пасля абдымаў, а пасля шкадаваў,
Прабачэння прасіў,
парады.
Мне калецтва цяпер не схаваць,
не схаваць,
Ні да зоркі ляцець, хоць да хмары…
А калматы шалеў: «Разагнаць, паламаць,
Пахаваць разам з ёй яе мары!»
А пасля галасіў,
а пасля варажыў:
«Дзе ты, дзіўная, кволая птушка?»
Капяжы, капяжы…
А жыццё на мяжы
У калысцы над прорваю гушкала.

* * *

Зорка, калыска, маці мая,
Здрада так блізка,
Кволая я.

Зорка, калыска, ты не люляй,
З горада выслізну
За небакрай.

За небакраем поўня звініць,
Песню спявае,
Хочацца жыць.

Хочацца жыць да празрыстай зары.
Сум мой спатоляць
Птушкі-сябры.

**Некалькі слоў пра музу**

Звер у ва мне суцішыўся нябогай,
Клыкі схаваў і лапы падгарнуў,
І толькі прыхаваная трывога
Сціскае скроні –
не, ён не заснуў.

Ён не заснуў…
А дождж усё ліецца,
І капяжы…
Маланка, як страла,
Знянацку ў хворы мой сусвет уп’ецца
І звера прыкрыжуе да стала.

Мой звер, мой брат, мой вораг –
цёмны геній,
Ён возьме ў рукі вешчае пяро
І ў адначассе ўборы мае зменіць,
І чорны месяц пусціць пад крыло.

І валасы кудзеляю саб’юцца,
А зморшчаны, як хвалі на вадзе…
І каршуны ў душу маю ірвуцца,
Каб разарваць апошнюю з надзей.

І лахманамі стануць дзіркі неба,
Якія яшчэ помняць сонца ўздых,
І прыме неба назаўсёды глеба,
І змые попел з чорных рук маіх.

І плач, і стогн азёрнае сінечы,
Нуклідныя крыніцы і раллю,
І плашчаніцу у крыві спрадвечнай,
Ушчэнт усё ўліе ў душу маю…

Таму такою песняй невясёлай,
Гаручай і тужлівай, як зямля,
Прашыты ўсе мае радкі і словы,
Таму ня ўмею пасьміхацца я.

* * *

Душа ляцела да зямлі,
Гарэлі крылы,
Ляцела з зорных гарадоў
На бераг мілы.

Прагорклы дым у твар ёй біў,
Не ўбачыць свету.
Душа дарогаю злягла
Ад злога ветру.

Душа, душа, ты да каго
Хваробнай ноччу?
У полі вогнішча трымціць
І слепіць вочы.

Як дацягнуць ёй да зямлі
У град і зліvы,
Калі, счарнелая ўжо ўся,
Згубіла крылы.

Як даспяваць ёй да зары,
Зары прарочай,
Дзе па рацэ вянок плыве,
Вянок сірочы.

**Жыццё**

Спачатку ляцела.
Пасля – бегла.
Пасля – ішла.
Пасля – паўзла.
Нарэшце лягла нерухома –
І … зноў паляцела.

**Чарацяная сукня**

Чарацяная сукня ня муліць, а рэжа,
Працінае сусвет унутры і вакол,
Кола дзён замыкае на вецер і снежань,
І рыхтуе палонку, а можа, палон.

Нагадае знаёмую постаць сцябліна,
Накалыша, навее, насвішча, насніць, –
І абрынецца неба ў сляпую даліну,
На далонь, дзе блакітная жылка дрыжыць.

Жыць – спакуслівы подых начамі,
Жыць – нямы і зварушлівы цень,
Ён мяне працінае, лінчуе адчаем,
Незваротным, няўтольным жаданнем ляцець.

Ашалелая выгадка хворых стварэнняў,
Чарацяная сукня ірвецца, раве
І пабітым сабакам паўзе ў сутарэнні,
Там ёй раны гаіць і не бачыць мяне.
Я лячу…

* * *

І хлынуў дзень забытымі радкамі,
Яго не супакоіць, не спыніць.
Барвяны ліст з пражылкамі-рукамі
Я захіну. Ён будзе доўга жыць.

Апошні позірк верасня ўтрапёны
І доўгая дарога – прыткі птах,
І золата, і неба, і чырвоны
Адбітак золку на старых дубах.

## Спроба малітвы

Божа,
Падсцялі рагожу
Пад хуткія ножкі,
Пад белыя крылы
Той зорцы астрожнай,
Адзінай…
Ды што гэта я, –
Зноў Цябе не пазнала,
Калі ў вочы глядзела
І прасіла так мала…
Толькі ўсё мне замала:
Не спявала – крычала,
Вокнаў не адчыніла,
А ветру панапускала
У белую, чыстую хату
Праклятую здрадлівай мной.
Даруй…

* * *

Мой дом гарыць,
Ратуйце, людзі, птушак
І птушанят у гнёздах пад страхой,
Яны павінны жыць,
Бо гэта нашы душы
І наш начны палёт
Над вечнаю ракой.
Ратуйце, людзі, іх,
Яны – безабаронны
І непрытомны як
Апошняя зара.
Мяне ўжо там няма,
Трымціць мой свет шалёны,
Праклёны ўслед, праклёны,
Зіма мне ўслед, зіма…
А птушкі паляцяць
Туды, дзе вечар сонны,
Дзе травы, як сурма,
І знічкі на вадзе…

А дом усё гарыць,
Нібы заручнік долі,
Мо, карабель праклёнаў,
Ці вугалёк надзей.

# Лясная панна

## Прошча

* * *

« Дом, это значит: из дому в ночь...»
М.Цвятаева

З дому бягу
Па расе, па снегу.
Такая гульня
У маленькіх-дурненькіх:
Будаваць дом
У лесе, у полі,
Паўсюль, дзе ветру даволі,
Дзе столя – нябёсы,
Дзе сцены – шаты,
Такі дом мне б мець,
Такі дом ладны.
З дому бягу,
Як промень ад сонца
Цалаваць шчаку
Першаму ў вёсцы аконцу.
Цураюся покуці:
Шчур ёй,
Мне – каптур.
Тут неба дыван
Дзінькае птушынымі галасамі,
Музычнымі скрынкамі,
Сонечнымі радкамі.
З дому бягу,
Куды вочы глядзяць.
Дзяцел склікае знаёмых,
Сясцёр, братоў невядомых.
Спяшаюся па расе
Ў гасцінны той дом паспець.
Дзе промень пяшчотны
І вецер шаўковы,
Дзе вольныя ўсе галасы
І родная мова.

* * *

«Вы думаете, любовь –
Беседовать через столик?..»
М.Цветаева

На краю зары,
На краю зімы,
На краю зямлі
Загубіўся ты.
Дагукацца як,
Даімчацца як
Ночкаю палыновай
З ветахам на дубах?
Ястрабам б'ецца смага:
Дзе твая рука?
Вострыя снягі лягуць –
У-ця-кай.
Памяць сціскае плечы,
Як замок.
Так толькі каты лечуць,
Галубок.
Кленчу, зморанaя маўчаннем.
Напіцца як?
У ракі маёй,
Як у смагі,
Горкі смак.
Рэха цябе шукае
Ўздоўж ракі.
З прыгаршчы п'ю світанак
І вякі.
Кінуся ў шэры горад,
Пыл, смурод…
Любы, няўжо ня ўспомніш?
Га-ла-лёд.
На краю зары,
На краю зямлі,
На краю зімы
Загубіўся ты.

* * *

Прошча – пращчурам спакуса.

Плошча – нам.
Вятрамі глушыць
Крык шалёны вербалоз,
Душыць словы.
Слёзы скрозь.
Зноў сівы скразняк на плошчы
Снег над прорваю палошча.
Суцяшае: «Будзеш жыць,
Пакуль жылка ў шкле дрыжыць».
Жывучы з каханнем поплеч –
Басаnож ідзем да прошчы.
У адной кашулі ўроссып –
Зноў будуем дом на плошчы.

Прошча – прашчураў спакуса.
Плошча нас вятрамі глушыць…

## Шпакоўня

У кашулі адной – нядужыя,
Мо ссівелыя, ссохлыя ружы.
Перазімаваць разам думалі,
Хаваліся разам ад сцюжы.

Што ж мы пабачалі раніцай? –
Мойры звязалі ў клубок
Нашы рукі і памяці,
Нашы імёны і зрок.

Кос не расплясці,
Рук не разарваць.
Спаць спакайней,
Калі побач ня спяць.

Дыхае нехта на шкло,
Цёпла рукам і каленям.
Толькі адно акно,
Іншае – сцены.

Сны пра няўдалы дзень –

Дзеці яшчэ не народжаныя.
Наша шпакоўня – агмень,
Лёдам вакол агароджаны.
Выстужаны з бакоў,
Тонкі, як чараціна...
Не баяцца б нам скразнякоў,
Абматацца б адной пупавінай.

Хто каму вінен і што?
Зноў шпакоўню прыціснулі шлягай.
Будавалі гадоў на сто,
Ды атрымалі – смагу.

Займелі хмару соў,
Папялішча на папялішчы...
Гэта зграя хворых ваўкоў
Толькі ветрам была на гарышчы.

Нішчыць іншы сусвет прасцей,
Чым схаваць у далонях вецер.
Мы з табой – жабракоў ланцуг
Зацугляны пад сэрца.

* * *

Мне сон прысніўся, быццам вецер
Цярушыць снег на плечы вокан,
Маё збавенне – гэты вечар,
Пакуль жывая і не змоўкла.

Мая краіна – за лясамі
І за гарамі. Век палёту.
Ірвуць маўчанне галасамі
Там рукі і званы, а потым

Ўжо лес – ня лес, а шлях у песню.
Крок да сябе – адвечнасць тайны,
Адвечнасць голасу ўваскрэснуць.
Сцяжына воўчая – вяртанне.

Мая краіна – вольны ветразь,

Яшчэ – трава, яшчэ – нябёсы…
А я лячу дарогай ветру
І ў валасах іскрыцца восень.

**Гара**

**1**
Калі не ўкленчыць – пройдзе боль
Пад першаю гарой,
Мяне гукаў ты столькі дзён
І не узяў з сабой.

Калі касу не расплясці –
Спатрэбіцца пятля.
Я пад гарой агмень прасіць
Не стану ў караля.

Ляжыш пад трэцяю гарой
Змарнелы волат – ты,
А я не ў змозе гараваць,
Шукаць твае сляды.

Як на чацьвёртую ўзыду,
То буду ведаць, дзе
Ты захаваў наш лепшы скарб
На перакор бядзе.

**2**
Ноч.
Крочыш нячутна
Зморааны зборамі ты.
Гора мышынымі норамі,
Пакінутым горадам
Пазірае з-за той вярсты.
Ненаціснуты ў цемры званок,
Як зарок ад вяртання.
Нас чакае безліч дарог,
Дзе мая – не пытаеш.
Неруш –
Ложак спустошаны.

Снега белае цела
Раскідала мяцеліца
Па вуглах.
Закалыханыя на страту месяцам,
Пацеркі рассыпаліся па падлозе.
Імгла...

**3**
Вось табе казачка,
Першая дзея.
Дзе ты,  а дзе я?
Ты – толькі рукі пад снегам,
Пад сонцам  – я.
Яшчарка каля рук тваіх.
Так халодна спіне…
Толькі спяваць не прасі,
Песня нямая ў мяне.

**4**
Новы кароль – герой.
Ён ня любіць стаяць пад гарой.
Але ведае збрую ў каня,
Дзе пастка і дзе браня.
Новы кароль ня крыўдзіць,
Толькі спявае на прызбе,
Дзе прыйдзецца і дзе прадзецца –
Песня кранае за сэрца.

**5**
Сэрцавіна свету – вясло.
Весляры – вясёлы хлопцы:
Лашчаць, быццам променяў сто
І сто першы на потым.

З веслярамі – вада не вада
І бяда не бяда на дотык…
Патаемная мара мая
Патанула, як восень.

**6**
А прачнуся – ў руках вясло

І карона стаіць на стале.
Гэта ўсё – падарунак не мне.
Гэта ўсё – мора пямяці.
Зменлівы твар у жыцця:
Толькі ўчора – любая,
Толькі ўчора – птушкам сястра.
А сёння – чужая зямля,
У якой загубілася…

* * *

Шнар-ашуканец,
Восень-сястра.
Дзе тая рана,
Дзе тая я?

Што там пад скурай?
Жэўрыць жыццё?
Жыва склікае гасцей
І пярсцёнак

Дорыць на шчасце
З правай рукі.
Толькі б каханне
Не папрасіць.

Сечанай, мечанай,
Скручанай ў рог,
Што пакладзе
На далоню Сварог?

На папялішча, на рану,
На шкло…
Можа пад шнарам
Толькі ярмо?

Быццам збавенне
Памяць гарыць:
Гора мінае,
Вечнае – жыць.

**Вокны**

**1**
Там, дзе сцены зламаюцца,
Плечы падставіць акно.
Абвянчае нячутна вечар нас,
Келіх напоўніць віном.
Мы пачнем новы дзень на уламках
І новую ноч…
Толькі, прашу, не збірай чарапкі.
Новы свет у акне не суроч.

**2**
Твае вокны цёмныя-цёмныя,
Можа, гэта з-за бяссоння вачэй?
Крылы ночы белыя-белыя.
Ноччу кормім з рук лебедзяў.

Што прынясе новы дзень?
Першую сустрэчу з летам.
Перакідны каляндар
Паляцеў на Купалле, як вецер.

Цішыня цешыць сэрца.
Так ніколі яшчэ не было.
У полі б кахацца ў высокай траве,
Там, дзе кветкі, як сосны.

Заплюшчы вочы – пабачыш краіну,
У якую даўно не вяртаўся.
Пупавіну згубіў ты даўно.
Мы ідзем па дарозе дадому.

**3**
Варажы, мой любы, варажы,
Я стамілася маліцца і чакаць.
Мая птушка села на мяжы,
Мая птушка вольная спяваць.

Верасовым водарам вянчала,
Ратавала крылы і радкі,

Шчодрая, пяшчотная, чужая,
Горкая зямля маёй ракі.

**4**

Калі стамяцца вочы твае –
Вазьмі мае,
Калі табе ня зімна,
А пранізліва-пяшчотна,
Калі табе самотна,
Калі табе не ўсхліпу
І не ўздыху,
Калі замест свежага ранку –
Ліха,
Ліхалеццем,
Вецщем,
Шчарнелым і зморшчаным…
Росчыркам шчасце.
Не вечна,
Але … велічна.
Нерушам поле.
Яго нам на двох даволі.
Вешчыя крылы – воля.

**5**

Вось ты трымаеш ветразь у руках,
А можа, клетку, я ніяк не ўспомню.
Мне сон прысніўся на сямі вятрах,
А восьмы громам мой сусвет напоўніў.

Твой твар бялеў, а вочы спапялялі,
Так горача, так голасна… Так шкло
Дрыжала і слязой маёй гуляла,
Так кола сонца бегла за сяло.

І я нібыта страціла прытомнасць:
Была рака, і вечар, і зара,
І неба-смага пад рукой няўтольнай
Няўтомнага святога ваяра.

А я была расою і сцяблінай,
А ты быў ветразем, і ноччу, і святлом…

Калісьці мяне звалі, мабыць, Інай,
Калісці мяне ведалі ваўком.

І вечнасць паглынула нас у нетры,
І не ўтрымала бура паясок.
А мы ляцелі па дарозе ўверх ...і
Дажджом ліліся ў залаты пясок.

* * *

Жывой буду –
Не забуду
Гэту памяць,
Гэту згубу.
Там за полем –
Гай, гай,
Толькі ў лесе – рай, рай.
Райскі мой яблык,
Вусны салодкі,
Вочы, як смоль,
Ночкі кароткі.
Ночкі-сіроткі,
Ночачкі-свечкі,
Вострая памяць –
У сэрцы засечкі.
Вусны смяюцца,
Сэрца рыдае,
Ночачкі-свечкі
Днём затуляе.
Вочкі заплюшчы
Шчыльна і шчыра,
Можа, успомніш
Белыя крылы.
Поле і гай
У руках гайдай,
На плячах трымай
Зялёны наш рай.
Гаю-гай,
Гайдай,
Сірацiну ўспамiнай.
Гаю-гай,

Гайдай,
Гайдай,
Гаю-гай…
Толькі не перакінь.
Толькі не цераз край.
Душу зграі не аддай.

Жывой буду –
Не забуду…

* * *

Бездань ночы
Шчэрыць пашчу,
У той ночы –
Плечы насцеж.
У той ночы –
Вусны-вёсны,
У той ночы –
Рукі-кросны.
Ясны месяц
Яснай павні:
“Пацалуй,
Калі не камень!”
У той ночы –
Вецер-войнік,
Замілуе,
Як дагоніць.
У той ночы –
Белы човен.
Сядзеш плыці
І не ўспомніш,
Як імя тваё,
Дзе вугал…
Знепрытомніць
Сэрца вугаль.

* * *

Не трымайце мяне,
                    я тут нядоўга,
Толькі паспею раздаць даўгі.
Не кахайце мяне,
                    я вашай долі
Не крануся плашчом даўгім.
Даўніна іначыць песні мае –
                    успамінаеце вочы?
Яны перапоўнены стогнам зямлі,
А не тугою дзявочай.
Ужо крык уразаецца ў хворы сусвет
Стогаловым стрыножаным ветрам.
Я тут на хвіліну.
                    Вы – мой сусед
Па ліўню і гнуткіх вербах.

* * *

Дзе далёка да сусвету,
А да твару – толькі подых,
Ты пра нас сьпяваў санеты,
Я пра нас складала оды.

Дзе ў шалёным акіяне
Скарбаў мы на борт не бралі,
Гаварыць не ўмелі хвалі,
Пра галоўнае маўчалі.

Дзе святлее вугал ночы,
А дарога – шлях пташыны,
Гаварыць не ўмелі вочы,
Гаравацьмы іх наўчылі.

* * *

“Міленькі ты мой,
вазьмі мяне з сабой…”
(з вядомай песні)

Абяры мяне рабыняй,
Хоць нялюбай, ды сваёй.
Рушніковы бераг сіні
Разгуляецца за мной.

Закрывавіцца зарою,
Раскідаецца травой
І закрые адмысловы
Незваротны мой спакой.

Рукі рэжа, цягне вецер
І звіваецца ў вянок,
Каб праз кроў прабіўся веццем
Алавяны персцянёк.

А мой крык крыжынкай ляжа
У абдымкі крумкачу…
Нажавой прастрэліш фразай:
“Я рабыні не хачу”.

**Дом на вадзе**

Дом на вадзе велічна,
Надзейна, з надзеяй на неба,
Плыве, нібы ласкавае цяля
За сонечнай цялушкай-вечнасцю.
Дом на вадзе сценамі
Кранаецца крылаў аблокаў,
А дахам – сонных вачэй зорак.
Рыбы коўдраю ўсцілаюць падлогу.
Падоўгу спяваем мы з імі
Пра агульныя супярэчнасці ў жыцці,
Аж пакуль не заўважаем:
Нашы таварышкі – нямыя.
І дом на вадзе – човен,
А човен – дошка,
А дошка – сцябліна,
А сцябліна – павуцінка
І мы – больш не мы.

* * *

Маўчы...
Так мала вакол цішыні.
Маўчы,
Слухай сэрцам бяссмерце.
Трывай,
Слухай званы.
Павер цішыні,
Будзеш, як вецер.
Слухай траву,
Слухай зару –
Будзеш зверам.
Прайдзі запаветнай зямлёй
Побач са мной.
Чую, адчуваю
Жылку лістка.
Крылатая я...

* * *

Да зары спявалі рукі
пра каханне,
І лавіла поўня гукі –
шум астанні.
І тужыла завіруха
на парозе,
І на плечы ўпала ветру
пры дарозе.
Да каліны буйны снежань
заляцаўся,
І звінеў калядны месяц,
спаць не клаўся.
Калі я цябе, мой любы,
цалавала,
Поўня ложак лебядзіны
рассцілала.
І дарыла кожнай зорцы
па званочку,
Кожнай пані –
па пярсцёначку-паночку.

* * *

Вусны – дзічкі,
беражыся,
Будзеш камень –
схамяніся,
Будзеш вецер –
разгуляйся,
Будзеш рэхам –
райся, райся…

Рай на яблыню падобны,
На духмяны, чысты водар,
На празрыстую крыніцу,
На мяне і вочы рысі.

* * *

Лячу лагчынай і травой.
Хадзем, мой брат, у лес са мной.
На цёплых каленях спачынеш –

Натоліш душу айчынай.

Напоіш вусны валогай –
Гай загарне, як малога.
За пазухай будзем у Бога,
І нерушам стане дарога.

* * *

Вечарэе…
Я прырэчана.
Быццам ветах,
Сэрца ссечана.
Ружа-кветка
Недарэчная
Па рацэ плыве
Побач з вечнасцю.

* * *

Чараўніца чаравала,
Белым хлебам прыпадала:
“Ці ты ела, ці піла,
Ці пшаніцу се-я-ла?

Твой сыночак, як ляночак,
А дачушка, быццам грушка…”
Калыхала дзетак: “люлі”
І хавала ад зязюлі.

А зязюля шэрая
Не жала, не сеяла,
Не кахала, не жыла,
Толькі ў небе лё-та-ла.

* * *

Гром, грымі,
Грудзі мае напаўняй малаком!
Неба з зямлёю мілуецца,
Дом зялёны ня цісне замком.

Белы свет, мо святліца,
Ў якой парадзіха – я.

Неба з зямлёю мілуецца,
Дыхае небам зямля.

Гром, грымі,
У знямеласці вуліц каханне кліч!
Неба з зямлёю мілуецца,
Каб нарадзіўся Зніч.

* * *

Днём малявала сонца,
Ранкам – зару.
Ноччу сляпому аконцу
Вочы свае падару.

Я у стамлённых веяў,
Я у згарбелых плячэй
Вымалю лёд завеі,
Каб струмянець лягчэй.

Ляжа вятрыска кудлаты
Каля ног шчанюком.
Зноў нястрымна-крылаты
Ляціць над зямлёй наш дом.

**Лён**

Сеяла лён – лівень, лівень…
Бачыла сон – сіні, сіні…
Ложак сцяліла зары
белакрылы.
Успамінала цябе, мілы.

**Лясная панна**

Яшчаркай выслізну з тваіх рук,
Упаду у траву тварам.
Буду піць расу, кожны гук
Каўткамі вялікімі, ранай.

Буду піць лясы, галасы,
Па полю імчацца ланню.
Ты не бачыў такой красы:
Мае вочы – світання.

Птушкай лячу нястрымнай!
Клеткі прыдумалі людзі.
Для ўсіх і паўсюль айчына
Неба вольныя грудзі.

Коласам выраcту ў полі,
Крыламі ветру.
Сценам і даху ніколі
Не стрымаць волі ветразя.

Безліч стварэнняў саткана
У ва мне. Не спужаўся – бяры.
Я сягоння лясная панна,
Дачка зары.

* * *

Мой лес, я табе спяю
Апошнюю песню пра лета,
Мой лес, я тваю зямлю
Укрыю крылом паэта.

А потым блакіт нябёс
Бяссоннем душы пазначу,
Прыму як шалёны лёс,
Як сонечны зваблівы мячык.

Свяціцца ў вачах расе,
Куваць адзічэлым сёстрам.
А я сыйду па крысе
У звонкія вечныя сосны.

А я – толькі ветру ўздых.
А я – толькі ліст шаўковы.
І зоркі ў руках маіх
Спяваюць на роднай мове.

* * *

Паляцела гукам, ценем.
На зямлі, на згадку, цела.
На далоні – толькі подых,
А на сэрцы – водар, водар.

Лён празрысты льне да твару.
Завару табе адвару.
Ты прачнешся ненаўмысна –
Я лячу, кружуся ў высі.

Звонкі голас перуновы
Запрашае ўзяць абновы
І заве вышэй, вышэй,
Там, дзе зоркі п’юць з вачэй.

Там, дзе ветах, там, дзе вера,
Дзе ляцяць па небе дрэвы
І нараджуюць санеты
Пералётныя паэты.

* * *

Водар сонца
Нашча сэрца
П’ю я сёння,
Каб не ўмерці.

Вецер нішчыць
Забабоны,
Я ўваскрэсну
Й пад бетонам.

Прарасту,
Распраўлю рукі,
Паднябесным
Стрэльну гукам.

Мне над прошчай
Вольна лётаць.
Расквітнее
Мая лотаць.

Развітанне,
Кветкі з мёдам.
Нашча сэрца
Сонца водар.

# Кветка гарынь

*** * ***

Мае лясы ўпляліся ў неба –
Зара, ўздыхні.
Табе лясы далёка несці,
Прыляж, спачні.

Зара, даруй, напоі неба
Я п'ю з каўша.
Мае лясы не просяць хлеба,
Як і душа.

* * *

Сіняй сцяблінь кранаецца ветах –
Сёння трыпутнік стане сусветам.
Стануць барвинкам доўгія ночкі,
Зорныя нівы – зорным сыночкам.

Сённня трыпутнік стане сусветам.
Кветка цвіце, нібы волкае лета.
Нам гэты шлях і спяваўся, і сніўся:
Стромыя сосны, сінія нівы...

* * *

Мой шалёны каханы – вецер,
Лашчыць плечы, кудлаціць косы,
Закалыхвае неба кветкамі,
Зацалоўвае ногі босыя.

Мой адчайны каханы – вецер,
Ты адкуль прыляцеў на звабу?
Уварваўся ў самотны вечар
І сукенку дарыў з ядвабу.

Мой адзіны каханы – вецер,
Падарунак нястрымна-пяшчотны.
Нам з табой, мабыць, поўня даверыла
Гэта неба, і вечнасць, і сосны...

* * *

Стаямі ў неба птушкі...
Гэта вы, мае пушчы.
Гэта ты, маё сэрца.
Мы не баімся смерці.

**Дождж**

1
Неба ўздыхнула –
 і дождж нарадзіла.
З дзіравага меха – дзіцё
Цешалася, пакуль дзіва
Дзяліла з намі жыццё.

Цешалася, пакуль цацкі
Былі як жывыя, і мы
Лёталі ў гэтай пяшчоце вар’яцкай
Далёка ад грэшнай зямлі.

Млела, лілося дарогамі дзіва.
Дзе дыванамі зара.
Рукі раскінула велічна зліва
Злева ад сэрца,
 ў барах.

2
Лівень, лівень летам, летам
Наталяе цеплынёй,
Ён, тварэц зямлі паэтаў,
Тчэ па ноце голас мой.

Лівень, лівень летам, летам...
Я лячу за ім услед,
На адной сцябліне – ветах,
На другой – увесь сусвет.

Лівень, лівень летам, летам
Лёнам, лёнам спавіваць...
Лётай, птушка, белым светам

Пакуль свецiцца трава.

* * *

Дом стары цягне рукi да белага хлеба,
Косы жоўтыя гладзiць зямлi.
Дождж лiецца.
Я вусны падставiлi небу.
Блаславiла палi.

Прыняла гэты боль,
Нiбы шчасце-спакусу:
Быць краплiнай ва ўсiм,
Снiць сусвет у сабе…
Так пунцова гарацъ мае горкiя вусны:
Не скаруся журбе.

* * *

Кветка гарынь – гарачая,
Гнуткая, як струна,
Гняўлiвы дзень перайначвала,
Струмянела, цякла.

Кветка гарынь гарэла
Кожным пялёсткам сваiм,
Шалам душы i цела –
Адценнем мацi-зямлi.

Захлыналася кветка ў пяшчоце –
Цiшынi збавення майго
I таго, хто сядзеў напроцi
Таямнiчых снягоў.

* * *

Вядзi мяне ў свой сiнi сад,
Там восень правiць баль.
Яе нясцерпная краса,
I боль яе пагляд.

Глядзi: у вокнах па расе
Сцякае цень ракi.
Вядзi мяне ў свой сiнi сад,

Дзе вецер п’е з рукі.

Кіпіць, буяе там жыццё,
Але брыніць туга,
Няволіць неба пачуццём,
Што ўсё памрэ ў снягах.

* * *

Белыя крылы поўні
Над небам і над зямлёй.
Поўня сусвет напоўніць
Снамі палёў.

Поўня раскажа казку
Пра лета і пра мяне...
Верце. З Божае ласкі
Шчасце не праміне.

* * *

Вы, мае ліўні,
Выпейце слёзы.
Лета смяецца,
Сонца не ўсходзіць.

Вечарам ліўні,
Як вербалозы.
Лета мінае,
Жыта не родзіць.

Вусны смяюцца,
Вочы рыдаюць.
Дайце мне, ліўні,
Сэрца са сталі.

Сэрца сталёвае
Будзе да ладу,
Калі каханне
Знікне, як радасць.

* * *

Павольна дыхае зара
На адзічэлы след.
Пагляд ваўка – з агню сляза
І ў ёй – увесь сусвет.

Пагляд ваўка трывожыць ноч
І слепіць вочы дню.
Кашуля падае да ног
Ахвяраю агню.

Спачатку памяць запішу,
Як выйду з апранах…
Ірве, ратуе, сніць душу
Мой воўк, мой грэх, мой жах.

**Прысушка**

Маім стрэлам калёным
не спаць,
І вятрам маім –
дзверы насцеж,
Каб гарэў твой славуты спакой
На зямлі і на небе
страсцю.

Маім змеям чароўным
не спаць:
Праз іглiцу прарошчваць вечнасць
І ў пітво тваё смела ўпускаць
Мае песні
і вешчыя вершы.

Каб табе без мяне не ўставаць,
Не ўздыхнуць, не заснуць,
не ўваскрэснуць…
Маім стрэлам калёным –
не спаць,
Праклінаць
і душу тваю песціць.

* * *

Па вадзе, па журбе
Рэха лета – белы лебедзь.
Я сумую па табе
І гару, як знічка ў небе.

На світанку па траве
Верасовы звон лунае –
Прарастаю ў смагу вей
Рушніковымі лугамі.

Пракавечныя муры
Забяруць цяпло і гукі
І навучаць гаварыць
Нашы вочы, нашы рукі.

* * *

Чуеце: вербы вартуюць сон,
Цішыня зацяжарыла летам.
Лётае прывід зялёных соў
Над пагранíччам сусветаў.

Недзе снягі і пустэча ў вачах,
Недзе завеі.
Чуеце: вербы ўмеюць маўчаць.
Чуеце – вечар…

* * *

Дарога, кволае дзіця,
Цябе душой не наталілі,
Гарачым подыхам лісця
І прахалодай вуснаў мілых.

Дарога, сумнае дзіця,
Не плач апошнім днём завеі,
Прымі няўмольнасць адкрыцця,
Што галава твая сівее.

* * *

У далонях – дарогі лета.
Лётай, лётай прасцей,
Бо на зары сусвету
Дню карацець.

Лётай, лётай да стомы.
Потым – снягі.
Не дакранешся й да столі
Ветрам тугім.

У далонях – лясныя песні,
Сосны, сосны пяюць.
Лётай, бо неба песціць
Восенню не дадуць.

Лётай, лётай да скону…
Коціцца ў рэчку дзень,
І залатыя коні
Топяцца у вадзе.

* * *

Азёрны хлопчык, у бары
Цябе цалуе ноч.
Ты з ёй не ўспомніш да зары
Сіротцва шэрых плошч.

Ты з ёй не ўспомніш да зары
Імён людзей, багоў…
Дзе ў кроплі зорны свет дрыжыць,
Там след крыла майго.

* * *

Я буду за цябе маліцца
Адчайна, горача, без слоў,
І будзе берагам сцяліцца
Адбітак лёсу – крылле соў.

Я буду за цябе маліцца,
Хоць і не ў змозе даляцець,
Туды, дзе твой глыток сунічны

За ноч паўней і карацей.

Я буду за цябе маліцца
На раздарожжы воўчых сноў
І светлавокім зорным ліўнем,
І бліскавіцай залатой.

* * *

Гара кідалася пад ногі, –
Зару лаві!
Ліпнёвым светлавокім ліўнем
Зямля ў крыві.

Што не памёрла – прысмірэла,
Я п'ю з рукі.
А на руінах вэлюм белы –
Радкі, радкі…

Гара кідалася пад ногі, –
Лаві расу!
Яе жывой, яе гарачай
Не данясу.

Гаручаю, апошняй кропляй
Ляціць зямля.
Гара кідалася пад ногі,
Нібы змяя.

Калі імгненне станіць векам,
Гарбом сівым,
Гара падставіць небу плечы,
Як херувім.

* * *

Вучуся слухаць цішыню,
Празрыстую зару.
Я канюшынаю зямлю
І неба прыбяру.

Я зберагу стамлённых вей

Шчаслівыя агні,
Калі ракою паплывем
У золкія снягі.

Калі не ўскрыкну, не спяю
На беразе дажджоў…
Вучуся слухаць цішыню
Імя якой – любоў.

**Танец на вуглях**

Гары, гары, мой танец, на вуглях,
Жыві, жыві, няўтольнае гадамі,
Дзе птушка-вечар на плячо лягла,
Дзе птушка-ноч пунцовых губ жадае.

Гары, гары, мой танец векавы,
Трымай, трымай маю душу-пярынку,
Дзе нечаканы і пяшчотны ўздых савы,
Дзе травы струмянеюць пад сурдзінку.

Гары, гары, мой танец, на расе.
Успыхне неба шчыра, палахліва,
Я буду таньчыць і таньчэць,
А ўсе – пазнаюць на світанку івалгу.

* * *

Адным радком памкнуўся лес да сонца,
Адной стралой урэзаўся ў блакіт.
Глыток цяпла – і пералёт бясконцы
Запоўніў небам клёны і дубкі.

Калі зіма завее дрэвам веі,
Калі мароз прастрэліць далячынь –
У сэрцы, пад карой, успыхне вера
І лес ізноў да сонца паляціць.

* * *

Неба ў далонях калыша кветкі.
Колькі бяссонных вачэй!

Мы з табой ухапілі за крылы вецер.
Нам імчацца яшчэ вышэй.

Сядзе сонца, вярбіны на захад лягуць,
Закрывавяць зямлю,
І натоліць сусвет верасовую смагу
Па жывому агню.

Мы з табой ухапілі за крылы вецер.
Сон на веях дрыжыць...
Недзе чуецца спеў, як надзея на вечнасць.
Шалёна хочацца жыць.

**Дождж**

“Ціхі дождж ідзе й не сціхае.
Аж чуваць, як растуць камяні...”
Р.Барадулін

**1**

Ціхі-ціхі дождж зімовы...
Моўчкі слухаю яго.
Ці ад згубы ён замова,
Ці ад холаду снягоў.

Дзе нячутна лягуць кроплі
На знямоглы шэры брук,
Прарастуць гарачым роем
Сотні белых крылаў-рук.

Дзе ад каменя да сэрца
Толькі невясомы крок,
Ад народжання да смерці –
Цішыні глыток.

**2**

Зімой душа, як шэры камень:
Не заспявае, не ўздыхне…
Я сёння памяць, толькі памяць.
Вякі завуць мяне.

Зімой душа, як шэры попел.

Блукае вецер, спіць зямля…
Той камень стане цёплай кропляй,
Каб не замерзла я.

* * *

Пастарайся проста выжыць.
Пастарайся даляцець
Да гарачых зор у жыце,
Да гаючых ценяў дрэў.

Пастарайся разам з ветрам
Выпіць поўню, як расу.
У тваёй далоні – вечнасць,
Вецер ўплецены ў касу.

У тваёй далоні – воля,
Поле белае буслоў…
Пастарайся проста выжыць,
Даляцець дамоў.

* * *

А кнігаўка крычала над вадой,
Мяне гукала сонячна, аддана,
А я блукала сярод сноў-мядоў,
А я была, напэўна, толькі зданню.

А кнігаўка крычала… Сон мой дзе?
Дзіцячы ветразь прытулю да скроні.
Мой Бай ідзе, стары, як свет, ідзе,
Жыццё-дзіця трымае на далоні.

* * *

Лета крылы свае дарыла,
гаварыла міламу:
– Любы мой, лётай,
так хораша ў небе.
Глеба хлеб свой дарыла,
гаварыла міламу:
– Любы мой, хлебам адзіным
жывіся, пладзіся,

толькі ўгору не рвіся.
Гара сілу сваю дарыла,
гаварыла міламу:
– Любы мой,
доляй сваёй ганарыся,
бо жывеш
паміж небам і хлебам.

* * *

Мы выйшлі з дажджу, як з вайны,
Дзе кроў запяклася, як сталь.
Мы выйшлі з падстрэшша труны
На зорны блакітны крышталь.

Што далей – мяне не пытай.
Прароцтва вясна забярэ.
Я буду бярозы гартаць
І руны пісаць на карэ.

* * *

Пройдзе зіма пералескамі,
Небам і воўчымі сцежкамі,
Пройдзе зіма ліхаманская
Марамі, ранамі, казкамі,
Плынню глыбокай,
Песняй далёкай.
Знікне з вачэй.
У-ця-чэ...

* * *

Не гнявіся на мяне,
Мой суддзя – зямное неба.
Сыйдзе снег, усё міне,
Стану я такой, як трэба.

Толькі сёння папрашу
Як скарынку, наш світанак,
Толькі сёння саграшу
Кропляй волі развітальнай.

Снег сыйдзе, усё міне,

Час бяжыць слязой дадолу.
Не судзі, мой Бог, мяне,
Бачыш, рэжу па жывому.

Час бяжыць. Са смагі п'ю
За глытком глыток атруту.
А напіўшыся пяю
Пра мяды і пра пакуты.

* * *

Восенню сіняй, слотнай зімою –
Я твае крылы,
Ты мая воля.

Вечарам, вечнасцю, холадам, здрадай –
Ты маё неба,
Я твая радасць.

Зморанны сыч праляцеў над сялом…
Дзе мы з табою?..
След замяло…

* * *

Па вячэрняй па зарэ
Восень воблакам плыве.
Ветру рукі падае,
На калені па-да-е.

Да нябёс дастаць травой
І шалёнай галавой,
Залатымі косамі
І нагамі босымі.

Толькі снегам не дастаць,
Тануць, гінуць, сумаваць…
Мёд вячэрні несьпяша
Піць з каўша.

* * *

Прыбяры мяне ў белае, поўня,
Я па-царскі табе заплачу.

Толькі грудзі зарою напоўню,
Толькі птушкаю палячу.

Прыбяры мяне ў белае, пожня.
Твой трыпутнік – замова ад ран.
Там да ранку гарачая прошча,
І ахвяра не хоча ўміраць.

Прыбяры мяне ў белае, доля.
Адалею я смагу сваю…
Вунь ідзе абрыкосавы дождж
І анёлы песні пяюць.

**Радзіме**

Я так хацела хораша спяваць,
Я так вучыла той урок цвярозы,
Ды вецер кветкі на лугах ірваў,
Пераплаўляў у яшму мае слёзы.

Радкі сталелі, месяц маладзеў,
І ўсё часцей звінеў вястун хаўтурны,
А я хавала вочы ад людзей,
Не заўважала ланцугоў і турмаў.

Я так хацела хораша спяваць,
Ды раптам не адчула водар ночы,
І вырастала на гарэ трава,
І звон гукаў, сляпіў бяссоннем вочы.

Навука болю – каршуновы крык.
Навука здрады – чараты і крушні.
Зямля мая, прытулак белых крыл,
Абарані лясныя  нашы душы.

* * *

Палячы мяне,  сонячны вецер,
Можа разам з табой паляцім
У адзінае месца на свеце,
Дзе знядужаным крылам расці.

Дзе трава  прычасцілася небам,
Там народзяцца дзіва-палі.
Ты мяне на плячах будзеш несці
І кранацца крылом зямлі.

Там рака загойвае раны
І воўк сядае ля ног.
У руцэ маёй будзе ранак
І ва ўсім, над усім – толькі Бог.

Паляцім жа, мой дружа-вецер,
Гэты вечар – як пах віна.
Над ліхтарамі – вербы,
А нас нідзе няма...

* * *

Той, хто народзіцца вольны, як вецер,
Вечарам сыйдзе з жыцця.
Вершы – мае паслухмяныя дзеці,
А сапсаваная я.

А нешчаслівая я. Там дзе вецце
Воўчым застыла таўром,
Я заблукала нябогаю ў свеце
І растрывожыла гром.

І разбудзіла  маланку
Рэхам сівым у барах.
Той, хто прыдзе на світанку,
Вечарам ляжа ўміраць.

Той, хто прыйдзе як збавенне –
Будзе з ветрам стагнаць…
Мяне ў небе ўсё меней,
Усё больш – у снягах.

* * *

Зіма бяз снегу, як бяз сэрца,
Гуляе смагай зноў і зноў,
І нас нясе шалёны вецер

На раздарожжа воўчых сноў.

Я гаварыць цябе вучыла
Гарачай ноччу, слотным днём,
І гаравала памяць крылаў,
І вырастала там быллё.

Чакалі снега, быццам хлеба,
Які забыўся вырасці.
Так мала сэрца сёння ў неба.
Так мала шчырасці ў жыцці.

## Развітанне

На першы лёд спяшаюцца радкі,
На белы лёс і чорную дарогу.
Балючы і халодны да шчакі
Твой пацалунак, мо таўро нябогі.

Сівею з кожнай ноччу і стагоддзем,
І неба шкло ўпіваецца ў сусвет.
Ты высечаны з камню, верагодна,
Ты па зіме-нядолі мой сусед.

Няўдала так, крывава вечарэе,
Чарнее дрэва зрэнкай крумкача.
Ваўком старым сірочая завея
Завые і схаваецца ў адчай.

А чараўніца ноччу чаравала
І цыравала свой сярмяжны мех.
Я рэчы на падлозе раскідала,
А ў торбу паскладала смех і грэх.

І рэха, і пранізліва-пяшчотны
Апошні подых, дахі і сумёты…
Каб ад мяне па беламу пайшоў ты,
Стагналі на паперы чорным вёрсты.

* * *

Берагі бліжэй за сэрца –
Беражы.
За адзін глыток ад смерці
Ноч бяжыць.

Дзе мая лясная фея?
За сялом.
Яе плечы, яе веі
Замяло.

Берагі бліжэй за поўню –
Цышыню.
Кубак першай я напоўню.
Прыгублю.

А пасля і ты, мой мілы.
Будзе плён.
Паратунак – толькі крылы.
Белы лён.

* * *

Сіні лес расце ля ракі –
Камень кінуты у вякі…
Вечны ўспамін
Чалавечны?

Кранаецца лес рукі…
Пакінь,
Пакінь мяне, любы мой,
Смелай.

Зменіцца час
І пра нас
Нехта напіша радкі,
Напіўшыся ветру з рукі.

* * *

Мне вятроў сівая роспач,
Як гаючы бінт на целе.
Вунь і птушкі паляцелі,

Вунь і неба пушчай крочыць.

Мне вятроў лясных пяшчота –
Верасовы подых ночы.
Не насі хусцінкі чорнай,
Сабе гора напрарочыш.

Тут зіма глядзіць на захад
Халадамі і дажджамі.
Адзінота прывакзалля
Верш спяліць, а рукі джаліць.

* * *
Пасцялю на світанку настольнік,
Наталю журавінавы свет.
Дзе стагоддзі кранаюцца скроняў,
Там імгненні гарацць у траве.

А зярнятка шукае бяссонне,
А нябёсы гукаюць зямлю.
Пасцялю я настольнік, як поўню,
Як глыток залатога агню.

Будзе ён нібы вешчая песня.
І аднойчы зіма міне…
Кубак зорнага вольнага неба
Вып’е сын, як не стане мяне.

* * *
Па зямлі зямное пройдзе:
Правы бераг, бераг левы,
А на правым – толькі поўдзень,
А на левым – толькі дрэвы.

Сёння я лягчэй пярынкі,
Бо зямное толькі сэрца.
Разам з ветрам рыну, рыну,
А чужое – рвецца, рвецца…

І спяваць… Калі да скону
Толькі вецер – ветразь золкі,

Свой палёт не ў змозе скончыць,
Бо да сонца шлях бясконцы.

* * *

Берагамі сіні сон –
Сосны.
Сто пакут і сто дажджоў –
Восень.
Берагамі сіні дзень –
Дзіўны,
Дзе стагоддзі і зара –
Дымам.
Берагамі сіні лес –
Ласка.
Сонца.
Вешчая трава.
Казка.

* * *

Я песні пакіну журлівым вятрам,
А восень на згадку зарэ,
І будзе халодная гэта пара
У сне жаўруковым гарэць.

І будзе няўтольная гэта пара
Свяціцца ў гаючай вадзе…
А сонца кранаецца сэрца пяра,
Калі ўжо няма надзей.

## Радзіме

Дзе на захад, дзе на захад –
Толькі птушкі, толькі птушкі,
Дзе на волю, дзе на волю –
Вой – Стрыбог,
Я пазнаю па сцяблінкам
Твае нетры, твае пушчы,
Я пазнаю па слязінкам
Ўсіх нябог.

* * *

Вечар-вецер,
дзе твае крылы,
дзе тваё сэрца,
дзе мова твая?
Так даўно
я слухаю цішыню
і не чую,
нарадзіўшыся птушкай,
не лётаю…
Вечар-вецер,
дапамажы ўспомніць.

* * *

Калі шчарнее дзень,
Калі аслепне ноч,
Каханне зберажы,
Надзею не суроч.

Чароўнае святло
Кранаецца пяра:
Ты будзеш як агонь,
Я буду як зара.

А потым будзе боль
Гарачы і нямы.
Цябе сусрэць дазволь,
Сярод ахвяр зямных.

Няхай увесь сусвет
Ляціць у бездань сну,
Я разбужу траву,
Наваражу вясну.

* * *

Вечарам-сажай
Люты крумкач
Рукі мне звяжа
Злівай няўдач.
Мукаю звяжа

Радасны дзень.
Дзе мае песні,
Сны мае дзе?..

* * *

Так цяжка дадому вяртацца,
балюча і немагчыма.
Вачамі
я неба тваё наталю,
пашлю
калыханку на поўнач табе,
зямле…
Самлею ў тваіх руках,
каханы.

* * *

Крумкачы, крумкачы,
як ад вас уцячы?
Чым завініла я свету?
Сагрэты
лес у мядовых лугах,
а мне
лягла на плечы туга
зрабаванай айчынай.

* * *

Хто хоча мяне зразумець,
знямець
прыйдзецца навучыцца.
Чуеце: я – крыніца,
ніцая, зрэбная, нічыя,
адвечная, недарэчная – я.
Поўня – сястра мая.

* * *

Сіні дзень:
верасовы,
бярозавы,
сакавіты.
Трымбіты,
бомы вакол.

Племя ваўкоў
чакае мяне
на ўзмежку.
Кужаль свой дараблю,
абагрэю зямлю…
І пабягу
ў лес знаёмы
бярозавай сцежкай…

* * *

Пра сонца напішаш золатам,
Прачытаю я ночкаю.
Быў ты ясенем-волатам,
Я – вярбінай-сіроткаю.

Быў ты ліўнем і травамі,
Я – ліпнёвай галінаю.
Разам мы валадарылі,
Разам мы і загінулі.

* * *

Вачэй не пазнаю і крыл.
Вочы твае выпіў крык,
А крылы ўпадобіў крук,
Ён кранаўся шурпатых рук.

Ён сядаў на плячо тваё,
Высякаў на плячы таўро.
Ты падняцца не меў ужо сіл
І застацца мяне прасіў.

Ты ляжаў сярод белых прасцін
Проці ночы – адчаю сын.
Ты маўчаў і маўчала я,
Не каханая, не чыя.

А зямля гаравала грымотай
І шаптала замовы ўпотай
На крылы і на прырэчанасць
Каханне вымольваць у вечнасці.

* * *

І прыляціць крумкач няўмольны,
Стамлённы, з восенню ў вачах.
Мы з ім падзелім ноч пароўну
Адчаем вострага мяча.

Мы з ім падзелім лёс і ложак,
Кавалак хлеба і тугу,
І пагаворым, нават, можа,
І заспяваем на бягу.

І кожны з нас спячэ атруту
На зачарованых вуглях.
І будзе ноч адной пакутай
Туляцца па вуглах.

* * *

Сон-трава кранае сэрца.
Сон мой дзе?
Сэрца ў сэрцы адзавецца –
Быць бядзе.

Сон-трава сагрэе душы
Дзіўным днём.
Тоне сіні лёд у мушлях –
Хутка дно.

Душы-мушлі – шлях адважных.
Лес шуміць.
Казку сон-трава раскажа
І згарыць.

* * *

Маё каханне – у барах,
Яму расой гарэць.
Ды вораг мой – адвечны жах
Смалою на карэ.

Маё каханне – у траве,
У квецені садоў,
Ды вораг-жах зіму заве

У нетры гарадоў.

Маё каханне – гэта ты,
Шчаслівы хлопчык-май.
Ды вораг-жах мне шле лісты
З таўром: вясны няма.

* * *

Бура, бура, я – жывая,
Мой адчай – трава-кавыль.
Тая рана нажавая
Дадала радкоў і сіл.

Навучыла быць прыгожай
І глядзець за далягляд.
У маёй далоні можа
Зацвісці бацькоўскі сад.

Бараніся, бура, сэрца,
Будзь ціхмянай да пары.
Пакахаць – амаль што ўмерці.
Бура, бура, гавары!..

* * *

Ты мяне на руках панясеш,
Як насення вясенні смех,
Як кропліну з роднай страхі,
Дотык рэха да вуснаў ракі.

Ты не грэх мой, не насланнё,
Ты няўтольнае сёння маё,
І няўмольнага ўчора мніх,
І раздольнага заўтра слых.

Служу я табе, служу,
Кружуся з табою, кружу…
Шапчу шалёнаму ветру,
Што вечарам стану светам.

А ноччу амаль што знікну.
Світанак пачнецца крыкам –

Крылатае немаўляці
Народзіцца сёння ў маці.

* * *

Гавары са мной, гавары,
Сівагрывы вецер лясны,
Сівачолы вечар-крумкач,
Ты мяне гайдай на плячах.

Выпівай, як віно, спакой,
І ляці басанож за мной.
Ты сукенкі бярозавы гай
З цішыні навакольнай зрывай.

З твайго неба пусціцца дождж,
З майго цела вырасце ноч.
І будуць блакітныя вочы
У расы верасовай, прарочай.

* * *

Я спяю табе пра мора
І вялікіх рыб.
Ты даверлівы і ўмееш
Шчыра гаварыць.

Я спяю табе пра скалы
І лясны ручэй.
Толькі гэтага так мала
Для тваіх вачэй.

Я спяю табе, напэўна,
Тое, што заўжды…
Лепш не слухай мае песні.
Пі мае мяды!

* * *

Спявай, вярбіна, спявай,
Вер у сваё яства!
Гэта – свавольны май,
Гэта – зямлі хараство.

Танцуй, вярбіна, танцуй!
Не думай, што будзе потым,
Нават, калі сумёты,
Адчуй крылы, адчуй!

Плач, вярбіна, плач,
Вер, вярбіна, вер,
Пакуль не прыйшоў палач
Аднойчы вечарам.

* * *

Я была зарою,
Я была травой,
Ветрам на сваволі,
Хуткаю ракой.

Я цябе гайдала
На сваіх руках,
Я цябе жадала
Сёння і ў вяках.

А калі ўжо вечар
Клаўся на крыло,
Сцішылася вербай
Недзе за сялом.

* * *

Заліўныя лугі – каляровыя:
Жоўтыя, белыя, залацістыя.
Злева дрэвы стаяць – волаты,
Справа рэкі цякуць чыстыя.

Галасы звіняць салаўіныя,
І стракозы шукаюць зацішак…
Днём мы ў гэтых лугах загінулі
І нарадзіліся зацемна.

* * *

Прачынаемся разам з птушкамі.
Засталося ў сумётах гора.
Сёння мы павандруем пушчамі,

Заўтра мы пацалуем мора.

За адбіткам святаў прастольных
Паляцім шчаслівыя дзеці.
У нябёсаў радасці столькі,
Што ведае толькі вецер.

Прачынаемся разам з птушкамі,
Выпускаем з далоняў сонца…
– Пушчы, пушчы, дзе нашы душы?
– У вербах і вешчых соснах.

* * *

Спіце. Я буду ваш сон шанаваць.
Спіце дрэвы, спіце дарогі.
І паляцяць дзьмухаўцы вандраваць,
І зара будзе доўгай-доўгай.

І паляцяць дзьмухаўцы, нібы лёс,
Над дарогай з гарачым пылам…
Падымуся з калень, дзе жыццё быццам лёх.
Дом мой там, дзе адчую крылы.

* * *

Я ўпаду на траву
Салаўінаю ўсмешкаю сонца,
Крумкачовым ўспамінам,
Адвечнаю песняй расы.
Я ўпаду на траву –
Так імгненне дагоніць бясконцасць.
Гэта значыць – жыву,
Гэта значыць – насенню расці.

* * *

Люляйце мяне на руках,
Я сёння каханка Ваша.
Наш дом на сямі вятрах –
Прытулак сірот адважных,
Прытулак сівых нябог
І валацуг стамлённых.
І ведае толькі Бог

Пра гэты палон зялёны.
Люляйце мяне да зары,
А з першым праменем сонца,
Я ўжо не змагу гаварыць
І знікну прымарай у соснах.

* * *

Я сыйду пакрысе
Журавінавай памяццю лета
У асеннюю сінь,
У шалёнства гарачых замоў.
Я сыйду па расе
У абдымкі нябёс і сусвету…
Будзе цёпла зімой.
Веру я,
Будзе цёпла зімой.

* * *

Мне столькі гадоў, скольки небу
І гэтай гаротнай зямлі.
Свой лёс буду годна несці,
А палячу калі –
Кветкаю вырасту ў жыце
І зацвіту ільном,
Шчырым і шчодрым Жытнем
Продкам вершаў і сноў.

* * *

Першы крок – толькі крык,
Першы крок – вешчы крук.
Гэта сусвет гарыць.
Гэта гавораць рукі.

Дык паляцім да зары,
Потым – да сёмага неба.
Будзем з табой гаварыць
На мове птушынай, срэбнай.

Навучымся разумець
Песні адвечных зорак.
Каханы мой, струмяней!

Зоры, мой любы, зоры!

* * *

Птушкі-душы, ляціце на поўдзень,
Паў-дарогі ўжо за спіной.
За гарамі, як рана, поле,
Там каханы застаўся мой.

Апякае далоні і косы
Пыл сцяжын залатых, дарог…
У лясах запаветных – росы
Вырастаюць дзіва-зарой.

Толькі ўчора – ржаное лета.
Вы ж ляціце далей і далей
У абдымкі мудрых сусветаў.
Я спачну на вашым крыле.

* * *

Гара, а ў гары – пячора,
Там пчолы жывуць залатыя,
Там ты і я, нібы ўчора,
Шчаслівыя і маладыя.

Гара, а ў гары – пячора,
Чорная, як смала.
Ластаўка там жыла ўчора,
Сёння ляцець не змагала.

Шчасце-гара, гара-гора, –
Вечнасць гартае радкі...
Сёння, і заўтра, і ўчора –
Хвалі адной ракі.

* * *

Ёсць, кажуць, рака над ракою,
А побач – вярбіна-вечнасць.
Крануся ракі рукою,
А вечнасці – цёплым ветрам.

Рака над ракою – вокны
І ў кожным – агеньчык светлы.
А мне, такой сінявокай,
Пра гэта спявалі вербы.

Пашыю з дажджу кашулю
І ў рэчку ступлю адважна,
Бо падае матуля
Мне паясок сярмяжны.

* * *

Вялікая рака... Яна жыве ўспамінам
Пра волю срэбных крыл, паходні, ваяроў.
Мінулыя вякі штандарамі ўсцялілі
Яе сівое дно, загаварылі кроў.

Свяшчэнная рака. Гаротніца-жывіца,
Спяліла берагі, прыймала ўсіх сірот.
Яна заве й мяне да берагіняў ніцых.
Я бачыла Анёла там. Ён плакаў пад гарой.

* * *

Лясныя берагі,
                    вы – карані сусвету,
Я адчуваю вас
                і сэрцам, і зарой.
Лясныя берагі,
                    вы – пуцяводны ветах,
Мой пракавечны боль
                        і залаты спакой.

* * *

Дзяўчынка, вяшчунка – душа,
Дай моцы мне волі напіцца
З сярмягі нябёснай – каўша,
З драўлянага сонца свяціцца.

Дзяўчынка, халодна табе,
На вейках дрыжаць ільдзінкі.

Я веру: аднойчы праб'еш
Завею зялёнай травінкай.

І крыгі растануць тады.
Мудрэйшая за стагоддзе,
Дзяўчына збярэ мяды
І немаўлятка народзіць.

* * *

Прываражыў мяне зарою
І кветкамі ў снягу.
Таго, каму была сястрою
У сэрцы зберагу.

Таму, каму была надзеяй,
На дзень падобны век,
На шыю ладанку надзену,
Не падыму павек.

Таму, каму была як сонца,
А болей не магу,
Я падару радкі і сосны
І след на берагу.

* * *

Каменны мой, табе я толькі снюся.
Душу сваю збалелую шукаю.
То песні дзіўныя спяваю,
То Богу горача малюся.

Мой ледзяны, твой сон быў вешчы:
Ірдзела я зарой да ранку.
Была расою і падранкам,
Пакуль ты гладзіў мае плечы.

Няўмольны мой, за шал душы і цела,
За сонечны ліпнёвы далягляд
Укленчу ў залатых палях
Сівой мяцелі.

* * *

Калі збіраешся ў дарогу,
Цябе за рукі не ўтрымаеш,
Бо ты маліўся толькі Богу,
А я нябёсам і падманам.

На падваконні свечка цвеліць,
Як сонца ў адмысловай раме.
А мне сціскае плечы вечар,
Цябе ж укрые рызай ранак.

Расой я не паспею ўмыцца,
Бо за табойісці баюся.
І будзе зоркаю іскрыцца
Твой погляд, як самотны бусел.

Калі ты рушыш у дарогу,
Я буду сумнай і прыгожай.
Дзе з рога шчасця так нямнога,
Маю пяшчоту ўспомніш можа.

* * *

Дзе толькі сосны,
Сніцца мне мора,
Сонячны ветразь,
Свет непакорны.

Дзе наша доля
Лапці знасіла,
Чорныя вочы
Ласкі прасілі.

## Каляровая варажба

Зялёнае з белым – мара мая,
Няўлоўная, як змяя.
Гэты колер прыдумала я:
Мара, маркота, зямля…
Зялёныя вочы ў травы.
Вы – крылы савы,

Вы – голас дажджу.
Мяжой пахажу... Варажу...
Якія вочы ў мяжы? –
Травяныя крыжы.
Жоўтыя капяжы.
Жыта дрыжыць, як жыццё,
Калі ў неба ляціць асцё.
Над прорваю – спеў салаўя,
Калі ў неба ляціць зямля.

Варажу... Час бяжыць...
Вы жывіце,
Бо я – толькі мара.

* * *

Каляным імгненнем, гартоўным,
Калі балюча каленям,
Ты, можа, прыйдзеш, мой родны,
Калі мы разам знямеем.

Калі маліцца не ў змозе,
Калі згарбеюць завеі,
Ты рукі мае ў свае возьмеш
І пацалуеш веі.

Укленчым цару лясному,
Укленчым гаючым вокнам,
Дзе па дарозе з дому
Свеціцца толькі восень.

Дзе па дарозе з лета
Коцяцца сны і крозы...
Можа прыйдзеш, мой лепшы,
Толькі ўжо будзе позна.

* * *

Жыві, мая птушка, жыві,
Жывіся гаючай слязой.
Дзе сёння агонь ў крыві,
Заўтра – зялёны спакой.

Заўтра – зялёны сусвет
Ад беЗдані напрасткі.
І недзе сумленны сусед
Стаміцца лічыць радкі.

Дзе толькі жыццё да зары,
Гарыць салаўіная ноч...
Нам будзе стагоддзі дарыць
Хмяльное лясное віно.

* * *

Валадар майго сэрца адзіны,
На каленях малю:
Давай паслухаем вецер
І залатую зямлю.

Як спявае крыніца, чуеш?
Травы, травы пяюць.
Мёдам, мёдам частуюць
Душы ў раю.

Слухай: саве не спіцца.
Чуеш сястру маю?
Я ў савы папрасіла
Ноч у гаю.

Тут і зямля, і неба,
Як пацалунак твой,
Шчодрага лесу нетры
Наталяюць расой.

Валадар майго сэрца адзіны,
На каленях малю:
Давай паслухаем вецер
І залатую зямлю.

* * *

Гарачыя вусны ў халоднай зары.
Ты, папараць-кветка, са мной гавары.
Забудземся сёння пра дзень і пра ноч,
Маю апантанасць, прашу, не суроч.

Я ўмыюся небам, гаючай расой,
І будуць вятры мілавацца красой.
Ускінула рукі – злавіла жыццё,
Пашкодзіла крылы – ізноў небыццё.

Учора прымара, а сёння – трава.
Я сёння каханка, мой любы, твая.
Глядзі: маладзеюць шалёныя ночы,
Галоўнае – з вешчай сцяжыны не збочыць.

**Ранак**

У руках тваіх – зара,
Росы.
Па сцяжыне ты ідзеш
Босы.
На плячах нясеш мяды,
Казку.
А ў вачах гарыць мая
Ласка.

* * *
Птушка-ноч прыляціць з-за лясоў,
З-за самотных змарнелых вёсак.
Нас укрые сваім крысом,
А ў вачах яе будзе восень.

І ў вачах яе будзе боль
Развітальны, гаючы, вечны.
Яна бачыла ўсіх нябог,
Яна ведала шчасця веліч.

Ты за плечы возьмеш мяне,
Пацалуеш пяшчотна, рашуча.
Знікне сум, знікне боль. Ноч міне.
І згарыць за воўчаю кручай.

* * *
Я цябе не кляла, а клікала,

Мой далёкі, гаротны мой.
Далягляд абрываўся ліўнямі
І звінеў калёнай стралой.

Адзічэлы месяц над безданню
Падстаўляў плячо для стралы,
Ратаваў сястру сваю бедную
Ад вялікіх спакус і малых.

Далягляд абрываўся песняю –
Птушкай сумнай, адчайнай, жывой…
Мы яе ў руках доўга песцілі
І паілі ўласнай крывёй.

**Зязюля**

“Калі шэра зязюля, –
ляці ў сіні бор…”
З народнай песні

– Зязюлька, зязюленька,
хутка зіма,
ці пашыла футрачка?
– Не ўмею сама.
– А дзе ж твае дзетачкі?
– Недзе пайшлі,
паплылі, паехалі,
па-ля-це-лі.
– А калі мяцеліца,
што рабіць?
– Мне лётаць хацелася
болей, чым жыць.
– А калі марозамі
да душы?
– Усё лепш, чым слёзамі
свет смяшыць.
– Пёркі твае шэрыя,
белая душа,
збіраешся ў вырай?
– Раю няма.

– Дык ляці, сястрыца,
за сіні бор,
і мяне самотную
пазаві з сабой.

* * *

Ад вольнага дольняга ветру,
Дзіцячай стракатай кніжкі,
Ад кані – няўтольнай крыніцы
Аднойчы з’явилася я.

А рукі – не рукі, а крылы.
А плечы – не плечы – узлескі.
А вочы – не вочы, а мора.
А доля – не доля – агмень.

* * *

Калісці я ўмела лётаць.
Употай бегла да дуба старога.
Ласі рагатыя бачылі,
Снягі каляровыя чулі.

І мы разам з дубам адчайна
Малілі птушку-зямлю,
Любоўю сваёй замаўлялі,
Гарачаю смагай, жыццём
Цела нам даць для палёту.

А потым мы з дубам ляцелі
І цешыліся цішынёй,
Небам, сукенкай вясельнай
І залатым агнём…

Толькі анёлы бачылі.
Толькі анёлы чулі…

* * *

Калі цар лясны
Свае мне даверыў сны,
А чорны разумны грак
Пяро, як нацельны знак,

Я думала доля – ляцець
З маёй травяной пасцелі,
Ліўнем ці рэхам сцяпным,
Нястрымнай птушкай вясны.
І я ірванулася ў неба
Галінкаю кожнаю, нервам,
Але карані абхапілі
Зямлю, як магутныя крылы.
Так і плывем у прасторы:
Птушкі, і рэкі, і горы,
Боль, як тумана адценне.
Неба – душа, зямля – цела.

* * *

Пушчы ляцяць у вырай,
Выракаюцца глебы,
Карані, нібы крылы,
Закрывавілі неба.

Пушчы ляцяць, як птушкі
У блакітным сусвеце,
Душы дрэў не затушыць
Нават сіберны вецер.

Ім палаць, як ніколі.
Зорыць памяццю квецень.
І гарачыя кроны
Уплятаецца ў вечнасць.

* * *

Хто крылы падарыў дажджу?
Далёкі гром, ці шчырая малітва,
Ці мы з табой, прамоклыя да ніткі,
Ці ноч, якая перайшла мяжу.

Хто крылы ладзіў для мяне?
Бяссонню берагам сцяліцца,
Яму ніяк не наталіцца,
І небу ў вокны птушкай біцца,
А мне ў вачах тваіх нямець...

* * *

Ноччу сугучча грамнічнага колеру,
Небу няўтольнай каняй звінець.
Доля снягоў гартаванымі коламі
Пройдзе скрозь песні і спаліць мяне.

* * *

Мяне не  пытай пра крылы,
Згасае мой век прарочы.
Снягамі душу накрылі,
Але пакінулі вочы.

Прыслухайся: лес галосіць.
Ён волі просіць у глебы.
Халодную гэтай восенню
Яго пакахала неба.

**Доля**

З рога – журботы многа.
Абрусам ляжа дарога.
Рукой памахаюць сябры мне
Такія яшчэ маладыя.

І маці хустачку здыме,
Угору рукі падыме,
Пасля пажадае шчасця,
Каб у людзях не прапасці.

З рога – пяшчоты многа.
Цалавала ногі дарога,
Залаціла крылы дажджом.
Жоўты ветах рэзаў неба нажом.

“Табе кавалачак і мне акраечак.
Ад раю – толькі ночка.
Народзіш сабе сыночка.
Будзе галубочак, валасы – ляночак”.

З рога – трывогі многа.

Спяшалася да царквы,
А чула ўсё шум лясны:
Апантаны, пралескавы
верасовымі песнямі.

Абрусам ляжа дарога
З пяшчоты, журботы, трывогі…

* * *

Верас цвіце ля вады.
Навальніца хавае сляды.
Дымам плыве зара,
Побач з зарою – я.

Звінець не ўмела, гарэла ўпотай,
Лета маё – летуценне.
Першы каханы самотны,
Другі мой каханы – вецер.

Дымам, дымам плыве зара.
Рукі сціскаю я:
– Зара, пачакай старэць,
Нам гарэць, нам зямельку грэць…

Ды халодная зара
Не кранаецца пяра.
– Пачакай, мая зара,
Мы расой не ўмыліся…

* * *

А мяцеліца коўдрай сцеліцца,
А мяцеліца варожа:
Хто з нас панскага роду,
Хто трава пры дарозе?

Не хвалюйся, мяцеліца,
Цешся з ветрам-ільном,
Ты пануй ночку цэлую
І цалуй яго днём.

Я ж знямею травою

І пад снегам засну,
Каб з вадой залатою
Уварвацца ў вясну.

* * *

Плашч надзела на цела ноч,
Ноч – не мышка-палёўка.
Дыхаецца не лёгка:
Ноч – чорны крумкач.

Крычы не крычы – чужая ты.
Перабег, пералёт – з маста пад лёд.
Ледзяная вада – да вокан бяда.

Да світання – нябесная манна.
Мана! Чужая я!
Была, застануся…
Дзе белы мой бусел?

Сялом паляцеў
Да белай пасцелі,
Да чорнай купелі…

"Люлі-люлі" спявала,
Сынка спавівала.
А цяпер пе-ра-лёт –
З маста пад лёд.

Да світанку – чужая каханка.
Крычу, рагачу…
Чуе мяне толькі ноч
Крумкачовая, злая, сірочая.

* * *

"Дзе песня твая, зязюля?
Ты ж ведаеш: сліва цвіце
Ужо ў першым месяцы года!"
Мацуо Басё

Лес няўтольны – лёс птушыны,

Хто спяваць цябе вучыў?
Дзе гарбеюць успаміны,
Толькі сойка закрычыць.

Толькі кнігаўка заплача,
Сыч прысніць лясны матыў
І маркоту перайначыць
Летуценнем залатым.

Тут вясной сваволяць росы,
Дня каўтаючы бялок,
І кудлаціць мае косы
Ветра вабнае крыло.

Можа тут шчаслівай стану,
Паслухмянай і зямной,
І прамые ветах рану
Ранішняй вадой жывой.

У нябыце я пакіну
Успаміны пра бяду…
Лес няўтольны – лёс птушыны,
Мяне мёдам нагадуй.

* * *

Воды падымуцца –
будзе бяссонне вясне.
Я паяском абвязала нябёсным цябе,
Каб не ўтапіўся,
за хмарку ўхапіўся.
Адчуваеш? – Цягну.
Гнуся,
гайдаюся,
гіну…
Цябе я ў бядзе не пакіну.

* * *

“І восенню хоча жыць гэты матылёк:
п’е паспешліва з хрызантэмы расу».
Мацуо Басё

У маіх далонях восень
Ладзіць свой дзівосны танец,
Вецер сіні рвецца ў вочы,
І буслы ў павеках тануць.

Тоне, тоне свята гукаў,
І ружовая раса
На світанку – толькі мука,
Развітальная краса.

Позна, позна ткаць пярынку,
Прорва шчэрыцца даўно.
Ты падорыш мне хусцінку
І прагорклае віно.

Дзе на кожны ўздых па пёрку –
Там апошні лета спеў.
Верш на тонкую паперку
Не спяшаецца цяпер.

А пасля – цярпець марозы
І цяжарыць цішынёй…
На блакітных вокнах – слёзы.
У блакіце – позірк твой.

* * *

Гэты урок –
                              зарок ад пытанняў.
Безліч вакол дарог,
                 безліч світанняў.
Адзіны мой, лічаны –
                                         свечка грамнічная на акне.
Вусны твае сунічныя,
                                            веі – сны.
Душамі хмары парушаны.
                                            Там наш дом.
Дзе загарацца сцены –
                                            на чаўне паплывём.
Вёсны – ветразя росы
  нагбам піць…
Лёс ты мой паднябёсны,

няўтольны блакіт.

* * *

Прыдзецца жыць, каб адзіная ночка
Смагай была і бялявым сыночкам.
Прыдзецца жыць, каб сівая бяда
Недзе далёка ад ганку лягла.

Лесам зязюлька кувала-кувала…
Ёй гэтай ночкі-заранкі мала.
Трэба было ёй шчаслівай радзіцца,
А не гаротнай маёй сятрыцай.

* * *

Калі буду смагаю –
Белым полем лягу я.
Калі буду ночкаю –
Стану свечкай моўчкі я.

Пасцялю настольнікі
На руіны-споміны.
Дзе жыццё сірочае
І радкі прарочыя.

* * *

Чужына мая, чарніца,
Ці жывая я, ці сніцца?
На чырвоную траву
Я схіляю галаву.

Чужына, маё бяссонне,
Я імя свайго не ўспомню,
Адчуваю толькі неба
І глыток гаючай глебы.

Чужына, маё збавенне,
Ты мае закрыеш веі.
І завее снег пякучы
Мае косы, твае кручы.

* * *

Не!
Мяне не кляні.
Я – клікуша з падзёртым бокам.
Вокам вакол павяду –
І збудзецца ўсё,
І змоўкне.
Не кляні клікушу,
Малю,
У мяне не кідай каменнем.
У далоні – жменька насення
Адзіная на зямлю.

* * *

За шчасце плаціць цішынёй.
Зноў крывавіць спякотнае лета.
Вырушаеш не ў поле са мной –
У далоні сусвета.

Вырушаеш у нетры трывог,
І ў залётныя сосны.
Не пытаецца пра залог
Золак жоўтага сонца.

Вып'еш ты гэты боль, як віно.
Песня нішчыць вяртанне.
Я цябе папрашу пра адно:
Памаўчым пра каханне.

## Калінавы мост

**1**

Калінавы мост паміж намі.
Калі ты паедзеш канём –
Знямею адна пад вятрамі,
Знякроўлю журботным быллём.

Былое прымроіцца блізкім
І чорнае белым тады,
Калі над сірочай калыскай

Буслом пракурлычыш ты.

Цярпець цішыню так знаёма.
Вядома, завея змяце
Пярынку-цябе, знядоліць,
Зняволіць, чужую, мяне.

Калінавы мост паміж намі.
Далёкія сны – берагі.
Бягу да цябе радкамі.
Лаўлю на вадзе кругі.

2
Першы круг – чорны крук,
Круг другі – дарагі,
Трэці – лёгка ўмерці,
Чацвёрты – гаручыя вёрсты…
Варожаць кругі,
А навокал … снягі.

* * *
Варажыла – і сэрца згубіла,
Лашчылася шчанюком.
Ночы той вераб'інай
Біцца і млець пад рукой.

Ці дажывем да світанку?
Цень на шурпатай далоні
Будзе дрыжаць, як каханка
У жаданым палоне.

Лону зарою свяціцца,
Цешыць спакусаю сон твой.
Ці дажывем да світанку? –
Свечка гарыць, як сонца.

## Каляровыя вершы

*трыпціх*

### Белы

Пад снегам рукі твае…
Вее, мяце завіруха,
хавае гарачыя рукі,
як рэкі, глыбей і глыбей.
К табе
бягу па беламу…
Ламаю сівую траву,
то выю ваўком,
то пяю…
Палаюць ночы і дні,
Знікаюць сярод зімы.

### Зялёны

Зямное – зямлі.
Млее зялёны ліст летам.
Там, дзе няма марозаў –
ветразь
і ліст зялёны.
Зялёны, залётны,
ляціць да долу,
да дому,
ці, можа, у рукі твае.

### Чырвоны

На чым прыплывеш?
Ведаеш,
яшчэ малой
я марыла
пра ветразь чырвоны.
Вядома,
марыла й пра капітана…
Танулі мары,
радком працягвалі жыць.
Дрыжыць

мара – жылка чырвоная у руцэ:
днямі, начамі
чакаю яшчэ...
Тчэ парка мару маю.
Ма-лю-ся…

* * *

**А.Д.**

**1**

Лячу к табе цераз вякі,
Цераз дарогі і турботы.
Кранешся ты маёй рукі
Крылом лясным, начным сумётам.

Кранешся ты маёй душы
Чароўным снегам, дзіва-ветрам…
На полі нашым – спарышы
І сіратой сумуе вечар.

І я сумую. Песня тчэ
Ізноў кашулю развітання.
Жывыя мы с табой яшчэ…
Світанне, любы мой, світанне!

**2**

Прыціхла неба на плячах у сонца.
Бясконцы дзень на лес далонь кладзе.
Мы заблукалі ў жыце, сініх соснах
І ў канюшыне – залатой вадзе.

**3**

Падары мне гэты дзень,
Сон лясоў і смагу пожні,
Свой адбітак у вадзе,
Першы крок і крок апошні.

Падары гарачы ўздых,
Подых вольны і аддяны…
Карані радкоў маіх –
Тыя згадкі, тыя раны.

* * *

Кроў лясоў паўночных – вершы
Намалюю залатым.
Я мастачка ночы першай,
Агнявой вады.

Далягляды, далягляды…
Мае косы – лён.
Сінім лёнам побач лягу,
Усцялю твой сон.

У адной руцэ – галубка,
У другой – сівы крумкач.
Калі любіш – не загубіш.
Смейся, доля! Плач!

* * *

Асцярожна: гэта поле –
Не спачын дарогі старай,
Не калыска жалю й болю,
Гэта – мары, мае мары.

Памірае лес і травы,
Каб вясною нарадзіцца.
Гэта поле – мае мары
І надзея адрадзіцца.

Палячу я жытнім рэхам
Ад грахоў, хаўтурных звонаў.
А ў палях – сцяблiны-стрэхі,
Сінім ветрам – крылы волі.

Веру я: вясною дужай,
Апантанай, ашалелай
Я ўпаду ў зялёны кужаль,
Выйду – маладой і смелай.

* * *

Проці ночы – сон сірочы
Пра цябе і пра мяне.
Бай у лапцях ціха крочыць –

Можа гора абміне.

Проці ночы – сон пташыны:
З поўняй мы на самаце.
Медавіца-канюшына
На плячах яе расце.

Проці ночы – вешчы верас
Напрарочыць шчасце мне,
А табе, напэўна, вечнасць
Сярод пусткі і камней.

* * *

**Соф'е Пятровай**

Адлятаюць буслы, адлятаюць
І busліцаю белаю – ты.
Завіруха палі замятае,
Слепіць вочы зямных святынь.
Пуцяводныя нітачкі долі
Рвуцца недзе на ўздыме дарог.
Завіруха царуе ў полі,
А на небе сумуе Бог.
Таямніцу адвечную знаеш,
Соф'я-птушка, сястра па крыві.
Залатыя лясы чакаюць
Тваёй ўсмешкі і дабрыні.

* * *

Ляціце, вятры, ляціце,
Лавіце мой дом, лавіце.
Я буду ценем на плячах мяцелі,
А пасля – цішынёй,
Я буду гукам, распраўлю рукі
Над соннай зямлёй.
Ляціце, вятры, ляціце,
Лавіце мой дом, лавіце…
Я – ваша пяшчота,
У сонечных сотах
Пачуеце голас мой.

# Дзве зямлі – дзве долі

*  * *

Душу бяссоную маю
Ратуюць дрэвы.
На сёмым небе, на краю,
Іх родны бераг.

На сёмым небе іх спакой.
Не б'е пад сэрца
Калянай вогненай рукой
Шалёны вецер.

Не разрывае на шматкі
Галінкі-лёсы.
Там за хвілінамі вякі
Цякуць у восень.

Там карані, як паясы, –
Не страшна ўмерці.
Мяне завуць мае лясы
На мове сэрца.

* * *

Душі безсонної причал
Дерева спинять.
На сьомім небі їх свіча
І вечір синій.

На сьомім небі їх ріка,
І б'ється світлом
Тверда палаюча рука
Гнідого вітру.

Не розриває на шматки
Гілки і долі.
Там за хвилинами віки
Зійшлися в полі.

Коріння там, як пояси, –
Не страшно вмерти.
Перекладуть мене ліси
На мову серця.

Переклав Сергій Осока

* * *

Адна зямля падставіла рукі,
Каб не ўпала на дол.
Ліўся дождж, і кропляў мудрыя гукі
Загаворвалі боль.

Другая зямля ратавала слова,
Дзе вусны агнём пякло,
Дзе птушка ляцела, ляцела на волю,
Шукала жытло.

І гэтыя белыя, чыстыя строі –
Зары светлы ўздых
Выткалі мне дзве зямлі, дзве долі,
Дзве песні маіх.

* * *

Одна земля підставила руки,
Щоб додолу не впала,
Лився дощ, і крапель мудрі звуки
Біль мені тамували.

Друга земля рятувала словом,
Де вуста вогнем обпікало,
Де пташка летіла, летіла на волю,
Гніздечко шукала.

Рушники оці, чисті, як поле,
Світлий подих зорі,
Виткали дві землі, дві долі,
Дві пісні мої.

Переклала Людмила Таран-Пономаренко

**Радзіме**

Буду сніць палі і пушчы,
Сон лясоў, напэўна, вешчы.
Я травою невідушчай
Вышывала слова “вечнасць”.

Вышывала-варажыла,
Залацела буйна жыта.
Дзе душа спяліла крылы,
Я складала вершы-міты.

Так няўмольна і балюча
Ллецца дождж, сівеюць скроні…
Ад зары маёй гаючай
Кветка-восень на далоні.

**Батьківщині**

Поле й пуща – сниться воля,
В снах лісів – глибини віщі.
Заговірною травою
Вишивала слово “вічність”.

Вишивала-ворожила,
Золотилось буйно жито…
Де душа ростила крила,
Я складала вірші-міти.

Невмолимо і болючо
Ллється дощ, сивіють скроні…
Де зоря моя палюча,
Квітка-осінь на долоні.
Переклав Микола Костенко

* * *

Праз вокны дрэвы прарасталі,
Спяшаліся да сініх сноў.
І снег на сцежцы хутка таяў,
І пахала ў горадзе вясной.

Анёлак мой ружовакрылы
Хадзіць вучыўся, як дзіця,
І веі цёплы вецер снілі
Да шалу і да забыцця.

І падымаўся цёплай паскай
Над домам нашым новы дзень…
А я тваёй чакала ласкі
Усё радзей.

* * *
Крізь вікна проросли дерева,
Злетілися до синіх снів.
І сніг на стежці – синє мрево,
І міста погляд завеснів.

І янгол мій рожевокрилий
Ходити вчився, як дитя,
І вії теплий вечір снили
До шалу і до забуття.

Піднявся, ніби тепла паска,
Над хатою святковий день…
Та спокій мій і твою ласку,
Печаль краде…
Переклав Микола Костенко

**Буры сыч**

Боль мой, буры лясны сыч,
Ты мне вочы ў ночы пазыч,
Разбуры мой здрадлівы сон
І крылом захіні, і крысом.

Красамоўна маўчанне тваё:
Там шукае свой скарб груганнё,
Там цякуць у лясныя вякі
Пракавечныя песні ракі.

А з рукі падымаецца ветах
На скрыжалях вятроў запаветных.
Гэта ўсё падуладнае мне,
Пакуль сыч за сцяною раве.

**Сич бурі**

Болю, бурі дібровний сич,
Мені очі в ночі позич,
Скаламуть мій зрадливий сон,
І крилом захисти, і крисом.

Красномовне мовчання твоє:
Шукачем скарбу вихор стає,
Там течуть у дібровні віки
Предковічні пісні ріки.

А з руки – розпростерті віти
На скрижалях вітрів заповітних.
Тут усе підвладне мені,
Доки сич пророкує дні.
Переклав Микола Костенко

**Ваўкалака**

Я звяроў вучыла размаўляць,
Я чытала ім лісты і кніжкі,
Ды глядзелі вочы ваўчанят
Праз мяне ў сусвет лясны, няблізкі.

Я звяроў вучыла маляваць,
Ім палітру падбірала з неба
І з дажджом мяшала зарапад,
А яны жадалі толькі хлеба.

А спявалі мы амаль адно,
Калі поўня адчыняла вокны,
У вачах сляпучае сяйво
Адбівалася абразам воўчым.

Як сірочы плач хістаў зямлю,
То выццё ваўчынае сціхала.
Я спявала песню не сваю –
Ваўкалакам выла і стагнала.

Я спявала, а вакол ваўкі
Абарону ланцугом трымалі,
Калі людзі з-за маёй ракі,
Як на ловы груганнё склікалі.

Як на ловы, як на вечны скон
Замаўлялі мне хаўрус сабачы.
А ваўкі не разумелі слоў,
Толькі разумелі голас плачу.

Я звяроў вучыла размаўляць.
Я людзей прасіла спачуваць…

**Вовкулака**

Розмовляти вчила я звірят,
Я читала їм листи і книги,
І дивились очі немовлят
Чисті-чисті, ніби очі снігу.

Малювати вчила я звірят,
Фарби неба брала я крізь шибу,
Із дощем змішала зорепад,
А вони прохали тільки хліба.

Ми співали, ми були одним,
Стала повінь нашими піснями.
У очах сліпучі холоди
Відбивались вовчими вогнями.

Плач сирітський сходив у гаю,
І виття потроху затихало.
Я співала пісню не свою –
Вовкулаком вила і стогнала.

Я співала, а довкіл вовки
Оборону ланцюгом тримали,
Поки люди десь із-за ріки,
Як на лови круків закликали.

Як на лови, як на вічний тлін
Замовляли ворожбу собачу.
Та вовки не розуміли слів,
Тільки розуміли голос плачу.

Я навчала звірів розмовлять,
Я людей просила співчувать…

Переклав Сергій Осока

**Піліпаўка**

“Як Піліпаўка настане,
то ваўкі ідуць гайнёю…”
(З Тураўскага слоўніка)

Вочы ў душу заглядаюць зверам,
Вочы душу пазбаўляюць веры.
Вечар у верасні – мой нарачоны
Б’ецца галінай халоднай і чорнай.

Воўк мне на плечы лапы кладзе,
Будзе ён побач сядзець і глядзець:
Вочы у вочы, агмень у агмень
Вечна са мною вечны мой цень.

Побач са мною – мудрэйшы, чым я.
Побач са мною – кат і суддзя.
Будзе сціскаць у цісках галаву,
Будзе мой боль ападаць на траву…

Выслізнуць я ад яго не змагу –
Шляхам звярыным у ноч пабягу.
Поўня вугельным крылом праз мяне
Нешта завые і нешта спяе…

Вочы мае вырываюцца ў цень,
Рукі мае загаворваюць дзень,
Косы мае адліваюцца ў поўсць, –
Хто гаспадар тут, а хто толькі госць?

Як чалавеку ваўка зразумець?
Будзе адзін з нас сядзець і глядзець:
“Ты, чалавек, чалавекам застаўся?
Што, небарака,
папаўся, папаўся?..”

**Пиліпівка**

«Як Пилипівка настане,
то вовки зберуться в зграю…»
(З Турівського словника)

Очі в мені виглядають звіра,
Очі мене позбавляють віри.
Вечір у вересні – мій наречений
Гілкою б’ється і просить прощення.

Лапи на плечі вовк покладе,
В душу свою він мене поведе.
Очі у очі. Вогонь у вогонь.
Вічність зі мною – тінню його.

Поруч зі мною – мудрійший, ніж я.
Поруч зі мною – кара моя.
Втіхою-зрадою стисне чоло –
Біль мій дощем упаде на зело…

Прийде туман. Не втікатиму я.
В іклах блищатиме доля моя.
Повінь крилата важко зітхне,
Чорні вуста поцілують мене.

Очі мої вириваються в тінь,
Руки мої закривавили день,

Шерстю стають мої коси тугі…
Хто тут господар, а хто гість туги?

Вовка людині не зрозуміти:
Буде один з нас у вічі дивитись:
“Був ти людиною. Ким ти зостався?
Що, небараче, попався, попався?..”

Переклав Сергій Осока

**Чароўная чапля**

Чароўная чапля на белайназе
У ноч пераходзіць вандроўніцай змрочнай.
Супыніцца час у сляпучай вадзе
Адчайнаю песняю, ветрам паўночным.

І птушка крыло пакладзе на кусты,
Сунічную спёку і чорныя вочы.
Чатыры дарогі натоляць масты,
Якія крывавяць на золку сірочым.

**Чарівна чапля**

Чапля чарівна на білій нозі
В ніч переходить, мандрівниця вічна.
Час зупиняється, меркне, як зір,
В пісні тужливій, вітром північним.

Птах на кущі опускає крило,
Спеку суничну, прочорнені очі.
Чотири дороги до мосту звело,
Де сутінь закрила кривавицю ночі.
Переклав Микола Костенко

**Каляды**

“Плач, дитино, плач…
То янголи від тебе відлітають…”
(З фільму “Украдене щастя”)

Хрыстос нарадзіўся –
ў гарачых далонях
Званочкамі цешыцца смех.
Вунь неба ліецца на беразе поўні
З усіх беспрітульніх стрэх.
Вунь дрэвы вііруюць:
у вырай, у вырай,
Мяне пакідаюць зямлі,
У вас – карані,
а ў мяне іх бяскрылле
Гарыць, як лямеш на раллі.
У вас карані,
а ў мяне толькі вечар –
Нашчадак змарнелых вякоў.
Зноў вецер, зноў вецер
ірвецца за плечы
З усіх ледзяных замкоў.
Зноў дзверы, зноў дзверы
затулены цемрай
І вокнаў аслеплі агні…
Кранаюся вуснамі ветразя веры:
Мой Божа, мяне памяні.

**Коляди**

“Плач, дитино, плач…
То янголи від тебе відлітають…”
(З фільму “Украдене щастя”)

Христос народився –
в гарячих долонях
Озвався дзвіночками сміх.
А з неба розливи – захмарена повня
З усіх безпритульних стріх.
Дерева в молитві:
у вирій, у вирій…

Мене залишають землі.
В них корені,
                    я – у безкрилості щирій,
Мов леміш в лискучій ріллі.
З корінням вони,
                    а для мене – лиш вечір,
Нащадок змарнілих віків.
А вітер, а вітер
                    стискає за плечі
Морозом нещадних замків.
А двері, а двері
                    повискують звіром,
Ні вогника – царство мани…
Хапаю вустами розвихрення віри:
Мій Боже, мене пом'яни.

Переклав Микола Костенко

* * *

Я не ўмею варажыць,
Толькі страт зямное шчасце
Прывучае проста жыць
І паклоны Богу класці.

Я не ўмею варажыць,
Дзе за ніткай скарб кладзецца.
Прывучаю не тужыць
Сваё зморанае сэрца.

І малюся дзень за днём,
Крок за крокам, век за векам…
Мае плечы ўкрыў анёл
Зорным небам, сінім ветрам.

* * *

Я не вмію ворожить,
Тільки втрат земних ненастя
Вчить так просто й мудро жить
І поклони Богу класти.

Я не вмію ворожить,

Де до нитки скарб кладеться.
Я привчаю не тужить
Зморене осіннє серце.

І молюся день у день,
Крок за кроком, вік за віком…
За плечима дощ іде,
І слова тремтять на вітрі.

Переклав Сергій Осока

* * *

Навекі сонца гарады
Закрытыя ад здрады цемры,
А я спяшаюся ў мяды,
У прасвятлёны зорны церам.

А там рака – нашчадак ніў
Шчаслiва свеціцца зямлёю,
І адмысловыя агні
Гарацьу ветраках зялёных.

Лунае смех, цвітуць сады
І лёгка так, што мудрасць сэрца
Ачышчаная ад бяды
Святкуе свой узлёт над смертю.

Маё жыццё цяпер Тваё…
На падваконні свечка цвеліць,
А я ўжо вольная ад цела
Плыву ў блакіт Тваіх гаёў.

* * *

Навіки сонячні міста
Чарівні висіяли зерна.
Я наблукалась по світах
І поспішаю в світлий терем.

А там ріка – нащадок нив
Щасливо світиться землею,
Ясні немислимі вогні

Горять у вітряках зелених.

Лунає сміх, цвітуть сади,
І легко так, що мудрість серця
Очистилася від біди,
Святкує свій політ над смертю.

Моє життя – в очах Твоїх…
У свічки виростають крила,
І я, вже звільна від тіла,
Пліву в блакіть Твоїх гаїв.

Переклав Сергій Осока

* * *

Вугал ночы – край малітвы,
Кроў дажджу, спакой самотных.
У далонь зары наліта
Сто грахоў маіх смяротных.

Сто спакус маіх адчайных
Паяднаць душу і цела…
Там, дзе кнігаўка крычала,
Толькі свечачка ўцалела…

* * *

Покуть ночі – край молитви,
Кров дощу, самотніх спокій.
У зорі долоні житні
Сто гріхів стікають соком.

Сто спокус моїх одчайних
Поєднати душу й тіло…
Там, де іволга кричала,
Тільки свічечка вціліла.

Переклав Сергій Осока

## Доўгае чаканне вясны

Калі сцямнее,
сцішыцца завея,
Калі сцямнее,
запалю святло
І ў садзе сінім
на галінах-веях
Пакіну ўсё,
што набыло жытло.
І ўцісну неба
ў крумкачову зрэнку
Неспадзяваным
рабацiннем шкла.
Ля чорнай прорвы
прастаю да веку,
Прыкутая
снягамі да акна.

## Довге чекання весни

Коли стемніє,
стишиться завія,
Коли стемніє,
світло запалю,
І полем синім
я заполовію,
І кину все,
що знаю і люблю.
Тепло небес
сховаю під повіки –
Ясний сувій
весільного сукна,
І, мабуть,
тут залишуся навіки,
Притиснена
снігами
до вікна.

Переклав Сергій Осока

* * *

Стыне люты за акном.
Ах, якія дзіва-кветкі:
Кветкі-слёзы, кветкі-сон,
Кветкі – кволыя падлеткі.

У маіх руках дрыжаць,
Быццам помняць нашу тайну, –
Я хадзіла іх збіраць
У далёкім цёплым траўні.

Я прасіла, каб жылі,
Не да лета, хоць да ліха…
Ноч кранаецца зямлі.
Сон брыдзе самотным мніхам.

* * *

Стигне лютий за вікном.
Ой, які ж то диво-квіти:
Квіти-сльози, квіти-сон,
Квіти – нерозумні діти.

У моїх руках тремтять,
Ніби пам'ятають здавна, –
Я ходила їх збирать
У далекім теплім травні.

Я просила, щоб жили,
Не до літа, хоч до лиха…
Ніч припала до землі.
Сон збирає хлібні крихти.

Переклав Сергій Осока

**Паўночны вецер**

Вы чуеце – вецер,
вы бачыце – вецер?
Паўночны мой брат абдымае за плечы,

Сціскае за плечы,
за вокнамі крочыць.
Мяне распрані і разуй гэтай ноччу.

Здымі апранахі, як лісце, змяці,
З табой па далоні я буду ісці,
З табой па далоні
ў шалёны твой лёс.
І лес захіне нас,
і зоркі,
і слёзы…

**Північний вітер**

Ви чуєте – вітер,
ви бачите – вітер?
Північний мій брат заглядає у вічі,
Чаклує, стиска,
обіймає за плечі…
Мене роздягни, дозволяю, в цей вечір.

Зніми мої шати, як листя змети,
Удвох по долоні ми будемо йти,
Удвох по долоні
в шалену вдачу…
І ліс прийме нас
на зорі,
і заплаче.

Переклала Людмила Таран-Пономаренко

* * *

Адгарэла, адстагнала,
Адцярушыла пяском.
Я ў лясы сусвет прыбрала
І звязала паяском.

Дзе вы, рукі, дзе вы, крылы? –
Спавядаюцца зямлі,
А бацькоўскія магілы

Прарастаюць на раллі.

* * *
Відшуміла дивним вітром,
Відгоріла, відстогнала,
Ранок заховала хитро
В лісі й стрічкою зв'язала.

Де ж ви, руки, де ж ви, крила? –
Сповідаються землі,
Там, де батьківські могили
Проростають на ріллі.

Переклала Людмила Таран-Пономаренко

**Песня**
Дзе з барвовых берагоў
Звон збівае полымя,
Адштурхнулася зямля
Непрытомным спомінам.
І рукамі не ўтрымаць,
Не загушкаць стомаю.
Развучыліся спяваць
Мы з сястрой, бяздомныя.
Рэхам кліча звон, плыве,
Толькі пад нагамі нам
Ні травы, ні астраўкоў,
Ні хусцінкі мамінай.
Дзе надзея, дзе спачын?
Крылы невідушчыя…
Мы куды, зямля ляцім?
Безгалоссе душыць.

**Пісня**
Де з багряних берегів
Дзвін збиває полум'я,
Відштовхнулася земля
Непритомним спомином.
І руками не спіймать,
Не забутись втомою,
Розучилися співать,
Сестро, ми бездомнії.

Дзвін луною зве, пливе,
Тільки під ногами в нас
Не трави єство живе,
А хустинка мамина.
Де надія, де спочин,
Скільки мрій збулося?
Земле, летимо куди?
Душить безголосся.

Переклала ЛюдмилаТаран-Пономаренко

**Сівы ўспамін**
Такой гарачай поўні,
такой сляпучай ночы
Стагоддзямі не ўспомніш,
пакуль у лес не збочыш.
Травою-перамётам,
звярынаю сцяжынай,
То птушкай пералётнай,
то гожаю дзяўчынай
Лячу – не разаб'юся,
ў малітве слупянею,
Я тварам дакрануся
да вечнага камення.
Нас продкі так вучылі:
то бегчы, то ляцець,
Каб не паліць лучыну –
ў грудзях свой светач мець.
Такой вялікай поўні,
такой шалёнай ночы
У цягніку раптоўным,
як на паляне змрочнай,
Не ўбачыш у акенца
карункавай фіранкай.
Мне памяць цісне сэрца:
танклявая паганка
Басонач, толькі ў споднім
да вогнішча выходзіць.

**Сивий спомин**

Таку гарячу повню
в такі сліпучі ночі
Довіку не згадаєш,
докіль у ліс не збочиш.
Травою-переметом,
звіриною стежиною,
То птахом перелітним,
то гожою дівчиною
Лечу – не розіб’юся,
в молитвах сокровінних,
І лик живий й каміння –
всяк горнеться до мене.
Нас предки так навчали:
то бігти, то летіти,
Щоб не палить лучину –
у грудях світ палити.
Таку велику повню
посеред буйства ночі
Я звідала раптово
там, на галяві змрочній.
Не зазирай у вікна –
біліє лиш фіранка.
Так пам’ять серце тисне:
приваблива поганка
Босоніж…серед лісу…
Й вогнем душа тріпоче…

Переклав Микола Костенко

* * *

Свеціцца, свеціцца сіні мурог,
Падае, падае зорка на стог,
Дымныя, дымныя коміны скрозь,
Дзіўныя, дзіўныя крылы, як лёс.

Белыя, белыя крылы ў руках,
Іх даглядае зняверааны птах.
Крылы і птаха я ў поле нясу,
Каб паглядзелі яны на расу.

Поле далёка, далёка яшчэ,
Слёзы глыбока, глыбока ў рацэ.
Птах мой стаміўся, стаміўся спяваць.
Крылы гарацць, і гарацць, і гарацць…

* * *

Світиться, світиться синій моріг,
Падає, падає зірка на стіг,
Димно-задимлені комини скрізь,
Дивна-предивна доля, мов ліс.

Біло-забілені крила в руках,
Наче зневірений, зболений птах.
Крила і птаха я в поле несу,
Щоб подивились вони на росу.

Поле далеко як мрево-мана,
Сльози глибокі, ріки глибина.
Птах мій стомився, стомився співать.
Крила горять, і горять, і горять…

Переклав Микола Костенко

**Зязюля**

Зязюлька ляцела, зязюлька кувала,
Каб сонечка ўстала.

Пад адным крылом – ноч,
Пад другім – надвячорак,
А яшчэ – саракоў сорак.
Каб не сорак саракоў,
То жыла б паненкаю,
Не хадзіла б па дварах
З торабай ды кавенькаю.
Так ні жонка, ні ўдава, –
Хто калеку возьме?
Ні страхі, ані вугла,
А з вачэй – ўсё слёзы.

Дзе слёзкі каціліся,
Там дзеткі радзіліся,
Травой спавіліся,
Расою умыліся…

Толькі так зязюлечцы цёмна,
Што ніяк не прыпомніць:
Як малятак назвала,
Дзе сірот пагубляла?

Зязюлька ляцела,
Зязюлька кувала,
Каб сонечка ўстала…

## Зозуля

Зозулька летіла, зозулька кувала,
Щоб сонечко встало.

Під одним крилом – ніч,
Надвечір'я під іншим
І сорок сороків – як птахи віщі.
Коли б не сорок сороків,
То жила б панінкою,
Не ходила б по дворах
З торбою й ковінькою.
Ні дружина, ні вдова –
Хто візьме каліку?
Ні сім'ї, а ні двора,
І сльози довіку.

Де слізки котилися,
Там дітки вродилися,
Травицею сповилися,
Із криниці напилися…

Зозуленьці світ немилий,
Що з пам'яті розгубила:
Як назвала маляток,
Де їх мама і тато?

Зозулька літала,
Зозулька кувала.
Є сонечко – літа мало…

Переклав Микола Костенко

* * *

Сем сыноў
У матулі сівой,
Сем асілкаў,
Сем волатаў.
Першы сынок –
Дубок,
Другі – цар вужыны,
Трэці – туман над ярынай.
Чацьвёрты – воўк,
Пяты – крумкач,
(Матуля, не плач),
Шосты – крамень,
Сёмы – агмень.
Сем сыноў
У матулі сівой.
А матуля – крыніца,
Жывая вадзіца.

* * *

Синів семеро
У матері-серденька,
Сім гострячків,
Сім силачів.
Перший синок – дубок,
Цар вужиний – другий,
Третій – туман понад лугом,
Сіроманець – четвертий,
П’ятий – чорний ворон, –
Ой, матері горе…
Як вітер – шостий,
Сьомий – вогонь просто.
Синів семірко,
А матері – гірко.

А матуся – криниця,
Живлюща водиця.

Переклав Микола Костенко

**Полацку**

А ноч плыве пад зорным парасонам
Дрыготкая і крохкая, як шкло.
Мінулае належыла бяссонню,
А будучае – крылы апякло…

Што там яшчэ? –
Далёкая дарога,
Зноў торбу пазычаць у жабрака.
Радкі кладуцца болем і трывогай:
“Сафія спіць.
Спяшаецца рака…”

**Полоцьку**

А журна ніч спинила білих коней,
Крихка й тремтяча, наче бите скло.
Минуле вже нележало безсонню,
Майбутнє раптом крила обпекло.

Що там іще? –
Незвідана дорога,
Знов торбу позичати в жебрака.
Рядки біжать, складаються в тривогу:
“Софія спить.
Спішить кудись ріка”.

Переклав Сергій Осока

* * *

Дом мой, кут мой, пачакай, застанься,
Птушкай буду над тваёй страхой…
Ды агонь да вельчыка дабраўся.

Я згубіла крылы і спакой.

Лёс мой, шлях мой, пачакай, змяніся,
Я травой пад брукам прарасту…
Ды крывёю рэкі разліліся,
Камяні размылі і расу.

Час мой, кат мой, пачакай, стаміся,
Зацякаюць рукі і плячо…
Калі на званіцы крыж зламіўся,
Побач доўга плакала дзяўчо.

* * *
Дім мій, кут мій, зачекай, зостанься,
Пташкою заб'юсь під темний дах...
Де вогонь у вільху закохався,
Я зронила пера із гнізда.

Доля, шлях мій, почекай, змінися,
Я травою з бруку проросту…
Тільки кров'ю ріки розлилися,
Змили і каміння, і росу.

Час мій, кат мій, почекай, стомися,
Вже рука неміє від плеча.
Коли хрест зламався на дзвіниці,
Поруч довго плакало дівча.

Переклав Сергій Осока

**Прароку**

«Чалавек – тупіковае
адгалінаванне эвалюцыі…»
(З газет)

Не пашкадуй,
пайдзі, не азірніся,
Не скамяней пакутлівым слупом,
Бо слёзы, што заўчасна не ліліся,
Не уратуюць веру і… Садом…

Якая вера? Бачыш, бездань ззяе,
І грае, і смяецца, і трымціць,
Там груганння раз’юшаная зграя
Твае сляпыя вочы будзе сніць.

Ужо мяжа збаўлення за спіною,
На плечы важка небыццё лягло,
І на Галгофу шлях вядзе ізгоя,
Там хеўры выць: “Распні, распні яго!”

Хацеў быў лепшым?
                    Будзеш самым горшым,
Бо чалавецтва ўжо не ўратаваць,
Яму давай відовішча і грошы,
Цябе ж, наіў, так лёгка абылгаць.

Пакінь Садом, пайдзі, не азірніся,
Тваё сумленне – клопатная рэч…
“Перад свіннямі… ды навошта бісер”, –
Хрыстос падумаў, дый падаўся прэч.

**Пророкові**

“Людство – тупікова гілка еволюції…”
(З газет)

Не пошкодуй,
                    піди й не озирнися,
Не скам’яній в нещирості спокут,
Бо сльози, що завчасно не лилися,
І віру, і Содом вже не спасуть…

Чи віра? Вачиш – там безодня зяе,
І грає, і сміється, і тремтить.
Там слід кровавий і несититість зграї,
Очам сліпим остання світла мить.

За спиною – твоя межа уроча,
На плечі важко небуття лягло,

І на Голгофу шлях крутий, пророче,
Там розпинати – ката ремесло.

Хотів буть кращим?
                    Будеш ти найгіршим,
Бо людство рятувати – марний труд.
Видовища йому дай, гроші, інше –
Тебе ж охоче брудом обіллють.

Покинь Содом, піди й не озирнися,
Твоє сумління – зайва метушня…
“А перед свинями… намарне бісер”, –
Христос подумав – й рушив навмання.

Переклав Микола Костенко

**Рагнеда**
трыптых

1

***Плач палачаніна па Рагнедзе***

Крывічаначка,
                    ясачка,
                              птушка,
Жыць далёка ці сілы стае?
Стогадовыя хвоі не глушаць
Развітальныя песні твае.

Як жывецца ў палацы, палоне?
Дождж вяроўкі маркотныя ўе.
Не напіўся з дрыготкіх далоняў,
Не нагладзіўся косы твае.

Адляцела бусліцай у вырай,
Зрабаванай, змарнелай, чужой…
Як цябе мне на волю вырваць?
Скон хіба павянчае крыжом.

**2**

***Развітанне Рагнеды***

Я ніколі цябе не пабачу,

Ты апошні шчаслівы мой сон.
Варажу, загаворваю, плачу…
І вянок на вадзе, як праклён.

Вунь і свечачка ўжо пагасла,
І зара плыве па шчацэ…
А у Полацку покуль ясна,
І бацькі жывыя яшчэ.

Там гасцінны наш дом на узвышшы
І любімых братоў галасы…
Вецер зоркамі музыку піша
І ўплятае ў мае валасы…

**3**

Пусціўся дождж, як на маёй радзіме.
Салёны вецер кветкамі гуляў
І на падлогу мне адну падкінуў,
Пялёсткі-крылы кволай паламаў.

Я заламала рукі разам з кветкай,
І разам з кветкай вецер я малю:
Ты забяры, сцюдзёны, з гэтай клеткі
І пакладзі памерці на зямлю.

Зямля мая, шчарнелая ад болю,
Спустошаная,
ў попеле, крыві,
Зямля мая,
пагавары са мною,
Дачку сваю – пакутніцу, прымі.

## РОГНЕДА

триптих

1

***Плач полочанина по Рогнеді***

Кривічаночка,
ясочка,
пташка,
Жити з нелюбом сили чи є?

Твоїм співом, народженим тяжко,
Пуща небо гірке дістає.

Як живеться в палаці, в полоні?
Дощ вірьовки звиває міцні.
Гладять простір далекий долоні,
Бурі моляться коси сумні.

Рідний вирій прийма як буслицю,
Порабовану, вбиту, чужу…
Як же вирвать з неволі зигзицю?
Світ марнотний окреслив межу.

2

***Прощання Рогнеди***

Я ніколи тебе не побачу,
Сон щасливий – то вже неживе.
Ворожу, замовляю і плачу…
І вінок, як прокляття, спливе.

Он і свічка заплакана гасне,
І зірниця торкнулась щоки…
Там, у Полоцьку, мріялось красно
І в надії молились батьки.

Найгостинніший дім на узвишші
І братів молоді голоси…
Вечір зорями музику пише,
Що вплітається в тугу коси.

**3**

Пустився дощ, враз спогад – про родину.
Солоний вітер квітку обіймав,
Мені одну до ніг грайливо кинув,
Та пелюстки, мов крила, обламав.

Я заламала руки – де ви, крила?
О вечоре, о вітре серед віт!
Візьміть мене, студені, я безсила.
Я так любила цей холодний світ.

О земле рідна, чорна ти від болю,
Спустошена,
у попелі, в крові,
В останній раз
поговори зі мною…
Прийміть мою спокуту, ще живі!

Переклад Миколи Костенко

* * *

Баліць спіна – там будзе месца крылам,
Там будзе месца ветразям спакусы,
Свае нябёсы восенню адкрыла я
І вось цяпер чаўны дабром пакую.

Зязюля кукавала мне даволі,
Зязюля – забабонная старая.
Я ў неба вырываюся паволі,
Я ў неба за сабою не гукаю.

Галёкаць там – не хітрая навука.
Навучаная здрадай і падманамі,
Прашу ў твайго нацягнутага лука я
Не ператворваць птушак на падраненых.

Спіну схаваю, а руку падстаўлю.
Страла, свінец ўжо шкоды не наробяць,
Калецтва рук мне сёння не падстава
Баяцца неба і зямлі не помніць.

Сваё імя чытаю на скрыжалях
І крыжаной вады напіцца мушу.
Мой стрыжань вырываецца стрыжамі
І на зямлі не пакідае крушняў.

Баліць спіна –
Там будзе месца крылам.

* * *

У спині терпко – буде місце крилам,
Там буде місце для вітрів спокуси.

Я небеса ці восени відкрила,
І ось тепер човни добром пакую.

Зозуле, не віщуй мені, доволі,
Не зупиняй пророчими рядками.
Я в небо вириваюся поволі,
Я в небо за собою не гукаю.

Грайливість там – не хитра та наука,
Я навчена на зрадах і обманах,
Прощу тебе – так налаштовуй лука,
Щоб птах не падав жалібним підранком.

Сховаю спину і підставлю руку –
Стріла, свинець вже не нароблять шкоди.
Бо легкість рук – сьогодні запорука,
Що небо рідне і з землею в згоді.

Своє ім’я читаю на скрижалях,
І воду крижану я пити мушу.
Мій стрижень в лет зривається стрижами,
А на землі трима прип’яту душу.

У спині терпко –
Буде місце крилам.

Переклав Микола Костенко

* * *

І ластаўка сляпая прыляціць,
Калі сплыве зара на падваконне,
Парэжа крылы аб лязо прадоння,
Як у вачэй тваіх папросіць піць.

І кінецца да вокнаў, як у рукі,
І паспрабуе зрушыць цішыню.
Той ашалелы звон разбітых гукаў
Пасыплецца крывава на зямлю.

І пацякуць па бездарожжы ночы
Гады мае, павіснуць на плячах,

Як рызманы у жудасним бязвоччы,
Як рэха анямелае ў вяках.

І, можа, ты мяне тады пачуеш,
За плечы возьмеш, схіліш галаву,
Мяне, чужую, да грудзей прытуліш,
Сівую, пакладзеш мяне ў траву.

* * *

І ластівка незряча прилетить,
Коли зоря впаде на підвіконня,
Поріже крила, затамує стогін,
Як у очей твоїх попросить пить.

І кинеться у вікна, наче в руки,
Запрагне з місця зрушить тишину,
Де ошалілий дзвін розбитих звуків
До крові зранить вранішню луну.

І потечуть по бездоріжжю ночі
Роки мої, повиснуть на плечах,
Немов лахміття у пітьмі пророчій.
Її не зрушить ні одна свіча.

То, може, ти мене тоді почуєш,
Баским конем розіб'єш куряву.
Мене, далеку, до грудей притулиш,
Невтішну, покладеш мене в траву.

Переклав Сергій Осока

* * *

Чорны попел, чорны попел,
Я даўно збіраю кроплі,
Ад дажджу жарыны змоклі,
А крыніцы – без вады.

Чорны верас, чорны верас,
Я даўно шукаю веру,
А брыду у паняверцы

На бацькоўскія клады.

Чорны бусел, чорны бусел,
Я даўно сьпяваць баюся,
Пагубляла словы, мусіць,
Дай мне песню без нуды.

* * *
Чорний попіл, попіл чорний,
Я збираю краплі-чари,
Від дощу жарини чахнуть,
А криниці – без води.

Чорний верес, чорний верес,
Я шукаю віру-веди,
Давній скарб шукаю предків –
Я не знаю, йти куди.

Чорний бузьку, чорний бузьку,
Я співати вже боюся,
Слів вогонь шукати мушу –
І в піснях позбав біди.
Переклав Микола Костенко

* * *
Я вярталася ў першы свой дзень,
Каб прайсці праз чысцілішча вечнае,
Каб сястрою – усім знявечаным,
Я вярталася ў першы свой дзень.

Я вярталася ў родны свой дом…
Сустракалі мяне толькі рэчы,
І люстэрка так недарэчы
Закруціла праменне вузлом.

У куце дагарала свечка,
Некрануты адвар на стале,
І бялюткая, цёплая печка
Пачынала трызну па мне.

Я вярталася полем скалелым,

Галасіла, стагнала, раўла.
Я укленчыла – як умела,
І цяплом дыхнула ралля.

Я вярталася ў маміну веру,
У спрадвечную веру сваю.
Да апошняга ўздыху і нерва
Разбівалася аб зямлю.

* * *

Я верталася в перший свій день,
Ідучи повз чистилище вічне,
Прагла бути сестрою калічним…
Я верталася в перший свій день.

Я верталася в рідне тепло –
Зустрічали мене тільки речі,
І люстерко так недоречно
Закрутило проміння вузлом.

Догоряла на покуті свічка,
Золотився відвар на вікні,
І теплом переповнена пічка
Тризну правила вже по мені.

Я верталася полем зомлілим,
Побивалась, стогнала до сліз,
Прикидатися я не уміла, –
І це бачили поле і ліс…

В материнську верталася віру,
У одвічну, дідівську, свою.
І хоч серце, хоч подих мій вирви –
Як земля, на цій вірі стою.

Переклав Микола Костенко

* * *

Я патроху вучуся маліцца
І часцей галаву схіляць,
Не шукаю таемнай крыніцы,

Каб агонь у грудзях стрымаць.

Не шукаю адзіную рэчку,
Каб спатоліць смагу сваю.
Я блукаю нябогай адвечнай,
Развітальную песню пяю.

А над прорваю белая птушка
Са зламаным нязграбным крылом
Беспрытульнасць маю загушквае,
Захінае няўдалы мой дом.

* * *
Так потроху й навчуся молиться
І частіше чоло схилять.
Не шукаю зірок у криниці.
То – вогонь, а у мене – земля.

Не шукаю єдиної річки
Вгамувати спрагу свою.
Все блукаю, і це вже звичка,
Та співаю, як воду п'ю.

А над прірвою птаха віща
Із поламаним білим крилом
Безпритульність мою вколише
В дім самотній, що пахне зелом.
Переклав Сергій Осока

**Партрэт**
Партрэт падобны на мяне…
Усе шляхі матуля бачыць,
Яна спакой не ўскалыхне
І не парушыць вечнасць плачам.

Цераз вякі я бачу сон:
Кладзецца промень светлай смагай.
Я на руках тваіх расой,
Ты на плячах маіх адвагай.

Зноў цераз вечар мост пралёг,

Нібы пярынка, крок за браму…
Бяжыць, не адчувае ног,
Матуля па прадонню рамы.

**Портрет**

Портрет відтворює мене…
Усі шляхи матуся бачить,
Вона мій спокій не схитне
І в тиші вічній не заплаче.

Через віки я бачу сон:
Кладеться промінь, як засмага.
Це я – роса твоїх безсонь,
Це ти – опліч моїх відвага.

Знов через вечір міст проліг,
Ніби пір'їнка, крок за браму…
Біжить, не відчуває ніг,
Матуся по закрайці рами.

Переклав Микола Костенко

* * *

Ляціць жыццё. Зіма майструе сані.
Апошні ліст прылёг пад абразы.
Я халады сутрэну не радкамі,
А падсвядомым прысмакам гразы.

А клён палаў. Было яму так светла…
Мінуламу малюся наўздагон:
Запомніце мяне вятры і вербы,
Маю празрыстую, як сіні дзень, далонь.

Запомніце шалёнай і шчаслівай,
Дзе па шчацэ не скоціцца сляза.
Я сёння ліўнем, светлавокім ліўнем
Прыйшла, каб восені «даруй мяне» сказаць.

Бо заўтра стану пералётным снегам,
Завею ноччу паркі і сады
І нагбам вып'ю міласціну неба –

Твае гарачыя няўлоўныя сляды.

* * *

Летить життя. Зима майструє сани.
Останній лист приліг під образи.
Я холоди зустріну на світанні
Передчуттям травневої грози.

А клен палав. Було йому так світло…
Минуле рветься піснею з грудей:
Запам’ятай мене, пташиний вітре,
Мою долоню, світлу, наче день.

Запам’ятай шалену і щасливу,
Де по щоці не скотиться сльоза.
Дощем рясним на світлооку ниву
Прийшла я осені “пробач мене” сказать.

Бо завтра стану перелітним снігом,
Вночі завію парки і сади
І вип’ю неба милостиву втіху –
Твої гарячі спалені сліди.

Переклав Микола Костенко

* * *

У далёкім сусвеце
            засталіся рукі і вочы.
Мерна вежам старым
            адбіваюць стагоддзі званы.
Тут па бруку сам час
            белым прывідам крочыць.
Не чакаеш сяброў.
            Не шкадуеш уласнай маны.

* * *

У далекому сяйві
                        зосталися руки і очі.
Темні вежі столітні
                        зійшлися послухати дзвін.
То по бруку сам час

Не дійду й не допливу…

Обпалила даль світанком,
Тоне, тоне пташка-ніч…
А за нею я підранком,
А за мною – сон сторіч.

**2**

Де горіла папороть-квітка
До зорі,
Приніс ворон утішну звістку.
– Говори!

Говори, доки вітер
Мені рідний, як брат,
Говори, доки квіти
Маю сили зібрать.

Почекай, моя згубо,
Душе, дихай вільніш!
Душу хто не голубив,
Той не випив свійківш.

Глянь, заплакані сосни…
Як кора, я горю.
Переболені кросни
Тчуть безсонно зорю.

Непоборена пісне,
В диких травах гірких
Йшли за право воскреснуть
Невмирущі полки.

Ось на шиї коралі,
Як солодка петля.
Як же тяжко карає
Ця земля, ця земля…

Чорний ворон на хаті
(Погляд – вічна жура):

– Скоро будеш ти матір, –
Набрида, як мара.

Подих свічечки-повні,
Спогад трав і медів,
Серце сина – як спомин,
Він повернеться в дім…

Ворон наче прокинувсь,
Зірко глянув згори:
– Ранок, мати-княгине.
– Говори, говори…

### 3

**Володимир**

А зараз ти – княгиня.
Злякалася чого?
Що Полоцьк твій загинув
Від погляду мого?

Що повдовіли жони,
Що полягли сини,
Що я, скипівши жовчу,
Страшний, як вир війни?

Сватів я слав по честі,
Тобі свій бив поклін.
Я шанував би тестя,
На пир прибув би він.

Ми піднімали б чари
За вільний наш союз…
А ти… прокляття слала
На всю мою сім'ю.

А ти…мене назвала
Рабичичем тоді.
Зозуля закувала
Тривожно: буть біді!

І села не горіли б,
Не розпинали б дів…
А в ріках … мертво тіло…
А в мене… в серці гнів!

Тепер рабою стала,
Рогнеда-Горислава.
Про те, як горювала,
Співай!.. Ти маєш право.

**4**

Як дивно, серце, і як страшно:
Володар мій єдиний – кат.
Він лютий, гожий і відважний,
Мені ж – зотліти від чекань…

Віщунка-доля так невтоленна,
П’ючи мою щоденно кров,
Вона сказала в ніч шалену:
“Кохай, Рогнедо, знов і знов”.

Мій князю, кате,
враже любий,
Тебе послав мені Стрибог
На муку,
на пекельну згубу,
На скін, де зла тугий клубок.

Горіть мені в огні ненатлім,
Крізь ненависть тебе кохать.
У келії, а не в палаці
Тебе чекати й проклинать.

**5**

О чар-зілля, як серце терпне…
Гасне день, не тихішає дощ…
Некоханій легше померти
У безмежжі років і прощ.

Некоханій простіше сонце
Окликати, ніж серце те…

Де гніздиться твоє безсоння,
Зловороже моїх пустель?

**6**

Дощі проллються –
стане світло душам.
На могилках підніметься трава.
І вітер пісню
на вустах просушить,
А мого батька сива голова,
Верба немов, нахилиться додолу,
До долу, до криниці,
до ріллі…
Ваша дочка вже хутко буде вдома,
Красі ії
лишилось
догоріть.
І буде вічність спопелять імення,
А воля захлинатися в крові…
Нести Рогнеді криж свого сумління
За межі, де батьки були живі.
“О, доню, квітко, –
сон Рогнеді сниться, –
Коли покличе сонце до межі,
Настане день –
ти будеш вільна птиця.
А зараз…
чисту душу збережи”.

**7**

Синку мій, подивись на мене,
Ти хіба не впізнав матусю?
Я конаю серед каміння,
Наче ластівка безпритульна.

Тільки очі гарячі ще,
У них – помста і пам’ять волі.
Моє серце – це сум і щем,

Не корюся ні кату, ні долі.

Княже мій, поклади в труну
Василечки – послання щире,
Найсвященнішу давнину,
Погляд милої Батьківщини.

Небо, міцно мене обніми.
Про кайдани співати годі,
Буде світло в кінці пітьми –
Я воскресну в моїм народі.

**8**

В домі моїм два вікна,
Два різних життя, дві дороги:
В першім – привид війни,
В другому – благості Бога.

Змішалися попіл і кров,
А хочеться жити й молитись.
В людському світанку змаліти
Лелека боїться знов.

У першім вікні – зима,
Заносить снігами пороги,
І кат – сіроманець дороги,
Й остроги – там берег дріма…

Та зводять церкви в другім,
Дитина сміється чисто…
У вікнах моїх – береги,
Я руслом пливу вогнистим.

Переклав Микола Костенко

## Вогнепаклонніца

* * *

***Рыгору Барадуліну***

Мне сніўся Барадулін малады
Гарачы, летуценны, апантаны,
Садзіў ён вершаў сонечных сады,
Было яшчэ далёка да бяды,
Яшчэ далей да босага світання.

Мне сніўся Барадулін малады:
Без барады, вясёлы і шчаслівы.
Ён жартаваў на розныя лады,
Сівелі і марнелі халады,
А мы зрывалі яблыкі і слівы.

Напэўна, я губляла галаву –
У боскай поўні мёд піла з далоні.
Ляцелі яблыкі ў гаючую траву
І верылася: толькі тут жыву
І першым, безумоўна, было Слова.

* * *

На мяжы сівых сусветаў,
Дзе і князь не гаспадар,
Нараджаюцца паэты,
Кожны ў латах, як ваяр.

На мяжы зямлі і неба,
Пераходу-забыцця
Кожны човен робіць з хлеба,
Жытняй горычы жыцця.

І плывуць чаўны не ў Лету,
Не ў завоблачную высь,
А далей ад люці свету –
Да пагоркаў і травы.

Кроў лясная на світанні

Наталіць нябёсаў дно,
І лягчэй паэту стане
На імгненне на адно.

* * *

Ляцеў на лёгкі ўзмах вясла:
Тваё крыло, маё крыло…
І не буяла ўжо вясна,
І лета, мабыць, адгуло.

Ляцеў на ліўня светлы шум:
Твая рука, мая рука…
Вятрыскі сваталі душу
І прачыналася рака.

Ляцеў на подых срэбных сноў:
Твая любоў, мая туга…
На плечы сонечных замоў
Зіма лягла.

* * *

Забываю, засынаю,
Забываць – вузлы вязаць.
Мне засталася ад Раю
Ноч і поўня, як сляза.

Раю-рай, свяціўся яблык,
Раю-рай, каціўся дзень,
Мой каханы тварам ясны –
Толькі знічка на вадзе.

Раю-рай, хацеў быць лепшым,
Раю-рай, сады садзіў.
Праскакаў сталёвы вершнік –
Сад надзеі не ўрадзіў.

Не бядую, забываю.
Быў і знік, нібыта сон.
Маё сэрца захінае
Спас надзеі – сіні лён.

* * *

М.С.

Які кароткі век
у гэтае травы:
Яна глядзіць у ноч,
і нікне, і чарнее…
А хутка і зіма
у футры агнявым,
Нахіліць галаву,
паставіць на калені.

А хутка і зіма…
Нямеюць берагі,
У вечнасьці-ракі
ў вачах дрыжаць ільдзінкі.
Пагавары са мной,
мой сябар дарагі,
На ростані снягоў,
на шчырасці сцяжынкі.

* * *

І абрынуўся ўніз галавой
Гэты снег на траву і веі.
Утравела мая любоў,
Заінела і анямела.

Шкадавала нябогу-любоў,
Саґравала і песціла,
І ляцела яна дамоў
Роднай песняю.

**Уцёкі**

*дыпціх*

1

Лячу да лясоў.
У далонях – надзея
Ігліцай сасновай,
Жывіцай-расой.

Салаўінную сукню
На плечы надзела –
У пушчах прытулак мой.

Скрыжаванне дарог –
Старажытная песня.
Ад суму – кляновы адвар.
Прыпісаў яго лекар лепшы
Вятрыска-ваяр.

Уцякаю да лесу,
Сунічнага лета.
На крылах гарыць зара.
Ад горада тлуму,
Лютасці свету
Ратуе мяне трава.

2
Чым далей – тым блыжэй.
Прычасцілася сэрца
І б'ецца цяпер мацней.
Лясному народу
Я шчыра веру,
Мне родны тут кожны звер.

Чым далей – тым блыжэй.
Цвіце ажына
На вастрыні пяра.
Я волю расціла,
Як любага сына…
Цяпер дадому пара.

* * *
На зямлі зазямлюся чужой,
Прарасту, зацвіту, уваскрэсну.
Гэта поўня лягла мяжой
На мае бязродныя крэсы.

Разняволіць птушыны лёс
Можа толькі дарога дадому,
Я мужнею пад стук калёс

І сталею ад суму і стомы.

Дом чужы прарастае ў палац,
На зары стане родным навекі.
Маё сэрца жыві, палай,
Наталяй таемныя рэкі!

* * *

Вяртайцеся назад,
                        мае радкі-ўспаміны,
Я гэтаю зарой
                        пазнаю вас здаля,
Завёўся сам сабой
                        ў куце стары гадзіньнік,
Я выважджу гуляць
                        драўлянага каня.

Дзіцячы конь-агонь,
                        зямны і паднябёсны,
Мы паляцім з табой
                        у невараць дарог,
І восень прарасце
                        у маладыя вёсны
І ўсе мае грахі
                        даруе мудры Бог.

**Вогнепаклонніца**

“Агню, паддай агню!” –
Мне дзед-каваль з нябёс даваў урокі,
Калі я падала ў знямозе на зямлю,
Калі з аўчынку быў сусвет шырокі.

“Агню, паддай агню!”
І хлебам дыхала духмяна паддувала.
Я гэтыя ўспаміны бараню,
Ад ворагаў-вятроў ў душы хаваю.

Мой дзед-каваль каваў само жыццё

І гартаваў імгненні і гадзіны:
“Паддай агню, не падай духам, Іна,
І кожны дзень прымай, як адкрыццё.”

* * *

Прачнуўся ў снежні майскі хрушч,
Хіба не дзіва?
Ён перайшоў часоў мяжу
Адзіны.

Як прарастае дзень і лес
З жыцця і смерці,
Той хрушч з нябёснай печы злез –
Да сэрца.

З якога свету пераход,
З якой старонкі?
Званы-дарогі сотні год
Спяваюць звонка.

На падваконні ліст жывы
Вусамі круціць,
Замову ён прынёс травы
Ад люці.

* * *

А над полем вецер вее,
Воўк-вятрыска, спаць пара,
На парканы ў гэты вечар
Апусцілася зіма.

Ах, якая завіруха,
Не прайсці, і Божа збаў
Гэты вецер нанач слухаць:
Ці то стоган, ці кляцьба.

Я спяшалася дадому
Цераз поле напраcткі,
А мая матуля-доля
Расцілала рушнікі.

Каб не збілася з дарогі,
Каб завея не звяла,
Каб было цяплей у ногі,
Каб я крылы зберагла.

А над полем вецер вее…
Толькі ў сэрцы – цішыня,
Мой анёл-ахоўнік вечны –
Мацярынская зямля.

* * *

Зялёны абажур старэнькага таршэра,
Лясны духмяны пах – ігліца на пліце.
Так каляровы дзень заменіць сумна-шэры,
І паступова дзень у вечар прасце.

Раскажа белы кот вясковыя падзеі,
Ён муркне ў вус даўгі, патрэцца каля ног.
А за вакном – зіма. Спакой снягоў. Нядзеля.
Такім мой новы дом у сне пабачыў Бог.

**Спарышы**

1
Крылаты Полацк – мой палон адзіны,
Адвечны, адмысловы, залаты.
Тут час назад адлічвае гадзіннік
І кожны дзень дзіцячы і святы.

2
Мне Вас смяротна будзе нехапаць…
Пякуць дажджы і палымнее сцюжа.
Мой чорны бусел над царквою кружыць,
А белага за снегам не відаць.

3
Мялее лета поўнямі дарог,
Не за гарамі слотныя туманы.
Пакінуў залаты на сцежцы Бог,
Каб мы знайшлі яго аднойчы на світанні.

4

Даруе дол і суцяшае сцежка,
Мы ўсе на боскім полі – спарышы.
Сваё крыло пад галаву пасцеле
Анёл-ахоўнік на святло душы.

5
Вяртацца балюча-няпроста
У ранак дзіцячых дарог.
Калі аддаляецца ростань,
Ратуе душу толькі Бог.

* * *
Вяртацца балюча-няпроста
У ранак дзіцячых дарог,
Як рана пульсуе ростань
У Полацку пад гарой.

Рэчка і ганак хаты,
Мурог і спеў салаўя…
Зняверанай, лютай, праклятай
Сюды  павярнуся я.

Вярнуся я чорнаю крыгай,
Пажоўклым сухім быллём,
Каб стаць на зары адлігай,
Птушыным белым крылом.

Дзіцячыя мудрыя песьні
Дажджамі змыюць грахі…
Ростань мая паднябёсная,
Полацак дарагі.

* * *
І была мне воля,
І была мне доля,
Пакуль не надзела
Сукні перуновай.
Пакуль не спяяла
Песенькі крылатай,
Я жыла паненкай
У багатай хаце.

А за тыя ночы,
А за тыя вочы,
За тое каханне
На край свету крочу.
І зарой сцяжына,
І замком закляцце,
І гарыць ажына
На жабрачым свяце.

* * *

М.С.

Рана, рана сонца ўстала,
Разбудзіла лес сівы,
Там, дзе сэрцу пешчы мала,
Вырас верас і кавыль.

Зязямлілася дарога,
Утравела цішыня,
На нябёсным паднябенні
Загарэлася зара.

Уздыхнула пані-ночка:
Што было – то адгуло.
Васількоў пяшчотных вочы
Завірухай замяло.

* * *

Валачобнік мой, зялёны вецер,
Асвяці далёкую дарогу
На радзіму, да зары, у вечнасць,
Вербалозаў сонячна-разлогіх.

Вецер вольны, працягні руку мне,
Забяры з няшчырасці і тлуму
У краі з яшчэ жывым каменнем,
Да азёраў з посмешкаю сумнай.

Паляцім, мой дружа! Нас жа двое.
Заблукаем у нябёсных пушчах.
Веру долі: дажывем да волі,
Да кахання і крыніц гаючых.

* * *

Даруй, Госпадзі, смагу маю,
П'ю й ніяк не магу напіцца.
Заклінаю зліву, малю,
Бо высахлі вусны ў крыніцы.

Наталі, толькі не пракляні,
Не высушы, як смакоўніцу...
Бо хаджу па Тваёй зямлі
Вечнай вандроўніцай.

* * *

Дзень добры,  кажу траве,
Дзень радасны – сонцу.
Яблыні гэтай паверу,
Дарозе паверу бясконцай.
Гэтыя словы штодня
Сто год халадоў паўтараю,
На подых, на ўсхліп, на крок,
На сэрца бліжэй да Раю.

* * *

Ухаплюся за зямлю,
За шаўковую траву,
За сівыя кавылі,
За казюрку у раллі,
За клубнічны вус даўгі,
За барвінак дарагі.
Ухаплюся за зямлю
І адчую, што жыву.

* * *

Пан лясны, нам па дарозе,
Навучы мяне дажджу,
Я ў крапліне буду кожнай,
Перайду часоў мяжу.

Пан лясны, мой спадарожнік,
Правядзі мяне зарой

Цераз змораную пожню,
Цераз здрады крыгалом.

Не бяда, што пасівела.
Беражэ мяне зямля.
Пан лясны цалуе веі,
Каб хутчэй ляцела я.

* * *

Наталяю душу цішынёй,
Цудадзейным лясным адварам.
Адрастаюць крылы. Анёл
Мне зёлкі духмяныя варыць.

Ён вартуе маю цішыню
І лісце старое паліць,
Канюшынаю ўкрые зямлю
І кветку падорыць на памяць.

Паляцець бы… “Дык не шкадуй,
Што было, што збылося, што будзе…”
Мой Анёл жывую ваду
Крыламі студзіць.

* * *

Пані сумная, цішыня,
Чаравікі свае знасіла,
Басанож ішла наўмання,
Пяшчоты ў людзей прасіла.

Паміраe ў холадзе гук,
Як птушынае кволае сэрца.
Цішыню я карміла з рук,
Запрашала у хаце сагрэцца.

А пасля мы сядзелі ўдвох
За сталом і пілі гарбату…
І ведае толькі Бог
Усе нашы скарбы і страты.

* * *

Калі б не арэха жывая далонь,
Калі б не зары прыгажосць і адвага,
І сэрца маё, і душу замяло б,
Як спарахнелыя горкія сцягі.

Напэўна бы я, як быліна расла
Каля аўтатрас азвярэлага свету,
Ды збаўца-анёл сваё неба паслаў,
Каб я прачыналася зранку паэтам.

* * *

Сосны, вы мае сёстры.
Сэрца ў далонь – і плакаць!
Плавіцца свечкай восень
Сонечных поўная знакаў.

Знічка кранецца далоні,
Як падарунак Бога,
Я разчынюся ў сутонні
Гэтай лясной дарогі.

Пушчы галубяць душы,
Што на зямлі сумавалі
І пакідалі крушні
Там, дзе іх не кахалі.

Там, дзе душу зневажалі,
Жаль запякаўся смалою,
Кроплі бурштыну дрыжалі
І ападалі зарою.

Літасцівы надвячорак
Лашчыў сасновыя плечы…
Так я пабачыла ўчора
Мост цераз вечнасць.

* * *

На сёмае неба дрэвы ляцяць,
Нібы жаўрукі да сонца.
Сосны, санаты майго жыцця
Спявайце бясконца!

Вырвецца з лёху на волю душа,
Дзіўная птушка,
Загубіўся мой час у зямных спарышах,
Райскіх пушчах.

Пазнаю па краплiне я Божы сусвет,
Па далоні чытаю долі…
Веру дрэвам і веру траве,
Як ніколі.

* * *

Наперад, у мінулае
Завуць мяне вякі.
Я смелая, я юная
І мой радок такі.

Заваражыла ласкаю,
З ядвабу мой пасаг .
Я – івалга, я – ластаўка,
Валошка ў валасах.

І каб завеі не мялі,
Маркоту – за парог,
Пад ногі любы пасцяліў
Мне залаты мурог.

* * *

**Ф.С.**

Калі па нябёснай дарозе
Пайду новы дзень сустракаць,
А цела пакіну ў знямозе
На зрэбнай прасціне ўміраць,
Калі па дарозе адзінай,
Няўмольнай, няўтольнай – жывой
Апошнім радком-успамінам
Я вырушу за табой, –
Пазнай маё вернае сэрца,
А грэшнае цела прабач,
Яно так баялася смерці,
Самотнасці і няўдач.

Наіўнае, кволае цела,
На вечнасць зямную – маё,
Яно так пяшчоты хацела
Хаця б на імгненне адно.
Хутка вялікі горад
Прачнецца, патушыць агні,
Ты мой неадольны голад
На небе і на зямлі.
Гукае калядны званочак,
Ляціць белы голуб дамоў,
Каб недзе на зорцы паўночнай,
Ты сэрца маё знайшоў.

* * *

Не вянчаліся мы ў храме,
А гарэлі ў небе свечкі,
І каней цыгане ўкралі,
І халодны быў той вечар.

Пацалуй мяне, каханы,
Каб у полі не замёрзла,
Наш дыван барвінкам ткані,
Што нам лютыя марозы.

Мой каханы нечаканы,
Галубамі прыгалубіш
І сардэчны гора-камень
Адагрэеш ў дзіва-грубе.

Прынясем дары Стрыбогу.
Прошчу нам шукаць не трэба.
Сэрца ведае дарогу:
Лёнам, лёнам,
небам, небам…

* * *

Залевы, залевы,
Направа, налева…
Мне сілы дае Гасподзь.
Дажджы, як анёлаў спевы.

Я ведаю зараз пэўна –
Будзе шчаслівы год.

* * *

Пазнае сэрца толькі сэрца.
Далоня ведае свой лёс.
У дрэваў я вучуся верыць
І не баяцца ўлады слёз.

Бяжы, заветная сцяжына.
Дарогу ведае душа.
Я п'ю спакой валошак сініх
З нябёс прадаўняга каўша.

* * *

Душа, душа, я толькі падрастаю,
Вучуся ведаць, верыць і любіць.
Калі ільды зімовыя растануць,
Я буду акрыленна, шчодра жыць.

* * *

Ах, вёсачка Сястронкі,
Дзіцячая старонка,
Сунічная старонка
Маёй лясной душы.
Ты адляцела птушкай
У залатыя пушчы
І засталася сушчай
І сёння, і заўжды.

* * *

Мялела рэчка, вырастала я.
Гады ляцелі, як табун шалёны.
Я ухапіла лепшага каня
За грыву залацістага сутоння.

Мой чорны конь, гарачы, агнявы,
Мой белы конь, як поўня светлавокі…
Ляцім мы, не кранаемся травы,
За час, за сум, за небакрай глыбокі.

* * *

Вершы ад слова верыць.
Вера ў далоні Бога.
Будзе да веку вернай
Маці мая, дарога.

Будзе да веку першай,
Лепшай, сунічнай будзе.
Сэрца сагрэе вершам,
Калі ўжо сіл не будзе.

**Штодзённік**

**1**

Перавядзі мяне цераз раку,
Раку гаючую, будзённую, сцюдзёную.
Ты у сваёй трымай маю руку,
І дзіва: брод адкрыецца штодзённікам.

**2**

І выпаў снег калядны срэбназвонкі,
Бывае так, калі цябе чакаю…
Маё жыццё старонка за старонкай
Да зорак дакранаецца радкамі.

**3**

А гэта не рака, а жыта,
І хвалям тут валошка сніцца.
Сто год, сто сонцаў разам жыць нам,
І сведкі нашы – вербы ніцыя.

**4**

Пасярод сівых снягоў
Мы на востраве надзеі.
Не пабачаць берагоў,
Не знайдуць, напэўна, дзе мы.

Пасярод такой зімы
Нават лес, як невідзімка.
Ты мой сонны твар абмыў,

Златой зарой-ільдзінкай.

**5**
Іду да цябе па вузенькай сцежцы,
Па бісеру нашчых дажджоў.
І дрэвамі свецяцца голыя сцены,
Падлога – травою-мяжой.

Іду да цябе па заветных дарогах
З кожным крокам да сэрца бліжэй.
Каханы адзіны, завешчаны Богам,
Няма цябе даражэй.

**6**
А хто маю сцяліў пасцель
Шалфеем, мятаю і смагай?
Спавала птушка карасцель
На вастрыні сваёй адвагі.

Спявала птушка карасцель,
А я была ізноў прыгожай.
За вокнамі гула мяцель,
Звон захлынаўся прыдарожны.

За вокнамі гула мяцель,
Ды не змаўкала дзіва-птушка,
Калядны месяц зіхацеў,
Шаптаў радкі табе на вушка.

Калядны месяц зіхацеў…
Усе часы ляцяць да сонца.
І нават птушка карасцель,
Якой няма, жыве бясконца.

І нават птушка карасцель
Сярод зімы нам заспявала…
Таму, хто пасцяліў пасцель
Я вочы-ночы цалавала.

**7**
Я прагнаць цябе хацела

За бурштынавыя горы,
За барвінкавыя пушчы
І за жоўтыя дажджы.
Я забыць цябе хацела,
Твае рукі, твае вусны,
Твае вечныя дарогі
І сустрэчы ў цягніках.
Толькі зноў цябе чакала
Кожны месяц, як учора,
За смарагдаваю рэчкай,
На краю сівой зімы.
Толькі зноў не называла
Я цябе сваім каханым,
А жадала толькі сонца
І ласкавых моцных рук.
А калі ты не прыехаў
Ў гэты горад заінелы,
А калі ты не вярнуўся
У далоню ўзяць далонь,
Я нарэшце вельмі позна
І няўмольна зразумела,
Што ты быў маім світанкам,
Маім ветрам і жыццём.

* * *

П’ю гарбату з малінай,
Пазіраю ў акно:
Час ляціць несупынна,
Як на стужцы кіно.

Я жыву сярод лесу
І глыбокіх снягоў,
Не шукайце адрэсу
Каралеўства майго.

Тут мурлыкаюць мудра
Мае коткі і кот,
Я магу быць лахудрай
Цэлы дзень, нават год.

Не хадзіць на работу,

З цішынёю дружыць…
Быць сабою так проста:
Трэба жыць, проста жыць.

**Малітва**
Ён упаў на зямлю
І пачаў маліцца.
І было яму так балюча
І так пякуча,
Што зямля загарэлася
І правалілася.
З правалля ўласнай свядомасці,
З яміны спустошанасці і адзіноты,
З бездані страчаных надзей і няўтоленай смагі,
Ён папрасіўся дадому,
Туды, дзе яго любяць і разумеюць.
Ніхто не бачыў гэтага чалавека раней.
“Ён чарнец”, – гаварылі адны.
“Ён вялікі грэшнік”, – казалі другія.
“Ён прапашчая душа”, – думалі трэція…
А калі вялізная белая птушка
Рассекла чорныя хмары ўзмахам моцных крылаў,
Усе, нарэшце, пазналі яго:
Калісці ён быў вандроўнікам і паэтам.

**Казка пра чароўную сукню**
Направа – залева,
Налева – залева.
Я сукню надзела
Сівой каралевы.

І недзе далёка ўздыхнула ралля,
Заплакала побач са мной немаўля…

“Ды гэтая сукня
З чужога пляча!” –
Мне голас знаёмы
Скрозь дождж пракрычаў.

А я не пачула,

Бо дзень карацеў
І ў поўні з далоні
Напіцца хацеў.

Сукня чароўная цела пякла,
Я з ёй не кахала
І з ёй не жыла,
І дыхала, нават, не так, як заўжды.
Цягнуліся світай за мной халады.

А срэбная сукня мне плечы пякла,
Бо зрэбная доля
Пад ёю жыла.

Ды раптам прачнулася вера мая,
Чароўную сукню сарвала яна.

Лячылася я у сівым гушчары,
Загойвалі раны мае звяры.
І сіберны вецер калыску гайдаў,
І вецер паўднёвы крылом укрываў,
Калядная зорка гарэла ў крыві
І вымавіў нехта вялікі: "Жыві!.."

* * *

Сварыўся гром, смяялася маланка,
Анёл агню быў блізка да зямлі…
Царыца Сафская, Рагнеда, Світязянка –
Адной душы спрадвечнай карані.

Світанак лета пачынаўся ліўнем,
А я была травінкай пад дажджом
І вінаградным прасвятлённым лісцем,
І будучага зрэбнаю мяжой.

А я была, і ёсць, і, пэўна, буду,
Бо пачалася з кветкі лугавой…
Анёл агню у студні крылы студзіць,
Каб не спаліць жывой душы маёй.

* * *

Дзе я здрадзіла вам,
Мае любыя, сумныя вершы,
На якіх скразняках,
На якіх скрыжаваннях дарог?

Вы сумленнем былі
І любоўю адчайнай, найпершай
Да зямлі і лясоў,
Да свяшчэнных нябёсных гаёў.

Дзе я здрадзіла вам,
Дзе я стоган чужы не пачула,
Дзе прайшла ў забыцці,
Дзе шчакой не адчула шчаку?

На каленях стаю
Над сырою магілай матулі,
А дзяўчынка-зара
Пераходзіць без брода раку.

* * *

"Адлятаеш?" – Адлятаю.
Толькі ў небе вырастаю.
А зямное прытяжэнне
Мяне ставіць на калені.

Дзе цяпер душа жывая?
Птушка ў небе ўжо не тая.
Як ляцела да зямлі –
Закахалася ў палі.

Як ляцела да лясоў –
Чула гоман галасоў.
Дацягнула да сяла
І падняцца не змагла.

**Дзень**

А гэты дзень праз хмары прарастаў
І піў ваду сцюдзёную з крыніцы,

Маё жыццё, як каляндар гартаў
І ведаў нават тое, што мне сніцца.

А гэты дзень да вечара даўжэў,
А я, як рэчачка сястронская мялела.
І раптам голуб прасвятлённа-белы
Мне скарб прынёс, які ўсіх даражэй.

Я зразумела паднябесся мову,
Бо гэты скарб было жывое слова.

**Вечар**
"Вер сабе. Веру трымай на далоні.
Вешчыя вершы пішы", –
Вечар крануўся улоння
І ліхтароў душы.

"Вось табе зрэбнае слова:
За лясамі і за гарамі
На шчасце давалі падкову
І… паміралі самі."

**Ноч**
Ноччу звонкі кожны крок.
Змрок.
Па галінцы птушка скок –
Рок.
А у лесе сыч крычыць:
– Жыць!
А мне хочацца твой мёд
Піць.

**Світанак**
Шчырае слова шчасце,
Нашчае, як світанак.
Знічкай згасае час наш,
А душа вырастае.

А душа не згарае –
Нараджвае кветкі і вершы.
Натхненне – дарога да Раю,

Непераможная вечнасць.

* * *
Я бачыла ўчора аблокі,
Яны нагадвалі горы.
Дзе ты, мой далёкі сокал,
Якое спазнаў ты гора?

Я ўчора цябе згадала.
Гарачай сунічнай ноччу,
За рукі ўжо не трымала,
Не заглядала ў вочы.

А проста сказала: “Добра.
Спакой твой не патурбую.
Так шкода, што не забудзеш.
Так шкода, што не забуду.

* * *
Найлепшы раман – намараны,
Нявыпіты, як і ты,
Атрутнымі чарамі-хмарамі
Не зваблены да слаты.

Не здраджаны, не спаплюжаны,
Не кінуты у сумёт,
Людскою малвой не асуджаны
На смагу ў спякотны год.

Ён намі яшчэ не прокляты,
Не спалены на кладах…
Чаму ж за душу тваю моліцца
Анёл на сямі вятрах?

* * *
Калі б ты ведаў, якая пяшчота
Жывіць мае палі,
Ты б не думаў, што будзе потым
На крок ад зямлі.

Калі б ты ведаў, якія рэкі
Цякуць у маіх гаях,
Ты б з крыніц гэтых піў адвеку.
Што грэх і што страх?

Калі б табе вешчыя крылы,
А мне залатую раллю,
Ты адчуў бы, мой мілы,
Як я цябе люблю.

* * *

Тры сустрэчы на вакзале.
Мы яшчэ не ўсё сказалі.
Ветру шум.
Хутка рухаецца "скоры".
Ты даўно не бачыў мора.
Я – душу.
Ад далоні да далоні –
Кава ў шкляначцы вагоннай.
Памаўчым.
За вакном паўстанак тоне.
Мы зямлі сваёй бясоннай
Шукачы.
Мары, хмары, развітальны
Пацалунак на світанні…
Стук калёс.
Ты не першы, не апошні,
Дык чаму ж сівеюць пожні
Быццам лёс?

* * *

Дагары, дагавары,
Стань гаючаю расою.
Ад зары і да зары –
Бог з табою.

Да палынавых дарог,
Да сівеючага цёрну
Забывай жа мой парог,
Засынай чужы і вольны!

Белы сокал над палямі,
Чорны сокал – снамі, снамі…
Над сірочымі дварамі,
Над сівымі гарадамі.

**Час палыну**

“Я любоў пазнаю па болю…»
(М.Цвятаева)

1
Не балела цела – гарэла
Старажытным вогнішчам-прошчаю.
Гэта мы на ахвярных арэлях
Адляталі няпрошчаны –
Я і ты. Крылы птушкам,
А нам – пажар.
Ах, якія гарачыя душы –
Боль і жар!

2
Палавіна лета пралягло
Цераз вогнішча ахвярнага крыло.
Мы з табой ляцелі клінам, клінам
Над пякуча-зваблівым палынам.

Над правечнай сіратой-ракой,
Над дзіцячай шчыраю шчакой.
Мы з табой ляцелі і ляцелі
У абдымкі вогненай мяцелі.

3
Час палыну?..
Час палыну…
– Не пакінеш?
– Не пакіну.
Крумкачовы час ліхі…
– За грахі нам?
– За грахі.

**Крыніца**
А ў пяюн-крыніцы
Чыстая вадзіца.
П'ю – не нап'юся…
Сіратой над палямі
Птушка родная – бусел.
Ён – мой брат.
Ён – твой брат.
Вяртайся назад.
Хаця б на хвіліну
Спачынеш.
На адно імгненне –
На маіх каленях,
На жарыну-вечнасць
Ў маім сэрцы вешчым.

* * *

*Марыне Цвятаевай*

Калесаваць! Калесаваць!
За непакору – знішчыць горы!
Знямець і вершаў не пісаць –
На гора!

Жыві, Марыначка, гары!
Ужо твой кат стралой калёнай
Прабіў плячо адной зары,
Другую знерухоміў стомай.

Такой прычыстае тугі
Не бачылі зямля і неба…
Ты аддала за ўсіх даўгі
І стала прошчаю і хлебам.

* * *

Дзе неба з аўчыну,
Там ў сэрцы – айчына.
Сірочае шчасце
Ў людзях не прапасці,

Выжыць, не знікнуць,
Да здрады не звыкнуць.
А вецер – салёны.
А позірк – калёны.
І жоўтыя вёрсты –
Нядродныя сёстры.

* * *

Айчына, мне тваёй
Шчакі не цалаваць,
Не піць жывой вады
Натхнення і адвагі,
Дачка пяюн-лугоў,
Зялёная трава,
Я прарастаю там,
Дзе наталяю смагу.

* * *

Абразок дару на памяць
І цалую вочы ветру,
Можа срэбрам не падманяць,
Можа хопіць сэрца верыць?
Па зямным такім дарогам
З вершаў зрэбнаю сумою
Я хаджу нябогай Бога.
Хто наважыцца са мною?..

* * *

Як вырастае кветка
З цяністых шатаў ночы,
Як срэбнакрыла каня
Кранаецца вады,
Так па маім слядам
Анёл пяшчоты крочыць.
Ды за спіною час
Руйнуе гарады.

* * *

Мы – дрэвы, бяссонныя дрэвы.
Далей і далей ад зямлі
Ляцім пад шалёнства мяцелі,

Пад міты шаўковай травы.

Мы – дрэвы. Пішыце лісты нам
На крыльцах сівых матылькоў,
На павуцінках асенніх,
На лапах галодных ваўкоў.

Далей і далей ад карэння...
Мы прагнем, як волі, нябёс,
Ды цяжка нам стаць на калені,
Прыняць адзінокі наш лёс.

І цяжка, і позна вярнуцца...
Галінкаю стыне рука,
І не дае азірнуцца
Кара – лубяная рака.

* * *

Згадай мяне птушкай,
Пагушкай на вербалозах.
Слухай: сунічныя рэкі
У душы цякуць,
Нібы слёзы.
Знаю: травою,
Правым і левым прытокам
Табе я належу.
Губляюся ў кнігах прарокаў,
Губляюся ў небе.
Знайдуся у сэрцы кахання.
Вер мне: зямля ажывае
Далонямі на світанні.

* * *

І неба, і лета, і позірк айчыны...
А я – твая птушка,
А ты – вецер сіні.
Далоня ў далоні – замова ад здрады.
А я – твая кветка,
А ты – мая радасць.
Так дзень вырастае да мудрасці ночы,
А ты развітацца са мною не хочаш.

* * *

Бераг правы, бераг левы...
А да сэрца – толькі крок.
Ну чаму сумуюць дрэвы
На прагалінах дарог?

На падпалінах змяркання,
На разлогах цішыні? –
Праляцела птушка каня
Нізка-нізка ад зямлі.

**Згадуючы “Ваўкалаку”**

**1**

Воўча-браце, больш ня буду плакаць.
На зялёнай выспе проці неба
Дам паесці змораным сабакам,
Крумкачам не пашкадую хлеба.

Дзе гады плывуць за даляглядам,
Шчыры погляд – лепшай нагародай,
Кожнаму сланечніку я рада,
Бо ад сонца ён зярняткі родзіць.

Воўча-браце, я твая адвеку.
Хоць да лесу сцежкі і ўтравелі,
Пацяклі да майго сэрца рэкі,
І сядзяць сычы на маіх веях.

Так было, так ёсць і, пэўна, будзе,
Бо чакаць зара мяне навучыла...
Толькі ваўкалака б'ецца ў грудзі,
Нібы сэрца змучанай айчыны.

**2**

Пятнаццаць год – пятнаццаць воўчых сонцаў.
Скажу, мой дружа, гэты свет не з лепшых.
Але лаўлю праменьчыкі ў ваконца
І ўдзячна посмешцы старой чарэшні.

І гэты сад, які заву я раем,
І гэты ліст, які ўжо не адпраўлю,
Ў жыцці сваім ад краю і да краю
Ніводнага радка я не папраўлю.

* * *

Рыце Алейнік та яе маці

Заспявай, мая дачушка,
Вось табе маё крыло.
Я была калісці птушкай...
Што было, то адгуло.

Я аднойчы стала крыгай,
Я аднойчы стала дрэвам.
Ты мае напішаш кнігі,
Ты маю падхопіш веру.

Перасохшая крыніца
Наталяецца крывінкай.
Стану я вярбою ніцай
І ад смагі – журавінкай.

Напішы радок мой лепшы
Сінім ветрам, шчырым сонцам.
Будзеш ластаўкаю першай
У вясне маёй бясконцай.

**Душа**

Хопіць часу на сумёты,
Хопіць часу на маўчанне,
Бо душа жадае лётаць
Ад світанку да змяркання.

А зімою будзе поўняй,
А вясною – срэбным небам,
Свой пацір вінам напоўніць,
Жабракоў накорміць хлебам.

Па духмяным першацветам,

Па няхожаным сцяжынам
Прывядзе зялёны вецер
З поўным кошыкам ажыны.

Дзе спакой і крылы мора,
Дзе самотнасць – Божа ласка,
Хай душа мая гаворыць
Шчодрым вершам, шчырай казкай.

* * *

А недзе праляцеў Анёл...
Анёл-агонь, табе да сэрца,
Да гэтых вербаў шчасця-днём,
Да гэтых кветак ноч-бяссмерцем.

Да гэтакай зямной мяне
У шэрай сукні падарожнай.
І аддаецца у спіне
Той боль гарачы і трывожны.

**Брату**

У гнёздах птушыных,
На сцежках ваўчыных,
Асфальтавых плошчах,
Разбураных прошчах,
У лютых завеях,
У жоўтых залевах,
У горычы свята
Шукала я брата.

Дзе мёд стаў атрутай,
Пайшоў неабуты,
Часінай адчайнай,
Дарогай звычайнай.

Мяцель лютавала,
А люць варкавала:
"Забудзь яе, любы,
Да сэрца, да згубы.

Хавайся за мора,

За горы, за гора,
Няхай не прысніцца
Сястрыца ніколі.”

Шукала я брата.
Шукала я брата...

* * *

На выспе белакрылай
Стаю сівою паннай.
А вы мяне любілі?
А вы мяне пазналі?

Сястрычкі мае, сосны,
Няўжо так мала веры,
Што, нават, і пад сонцам
Адчаем дзервянеем?

Душа жыве зімою
Па ледзяных законах:
Ад болю і да болю
Затулімся карою.

**Крокі**

Майму дзеду Іосіфу Снарскаму
забітаму ў засценках НКВД

**1**

Першы крок на белай пожні
Чорным крукам, чорным крукам.
І заломіць маці рукі –
Зорцы не свяціць астрожнай.

За гарамі, за даламі
Сонца звяжуць ланцугамі
І на сэрцы чорнай ніткай
Прыгавор смяротны выткуць.

Быў ён бацькам, быў ён любым…
Кожны дзень бліжэй да згубы.
Крыжык выслізнуў з далоні,
Храм згарэў й званы не звоняць.

Б’ецца ноч драпежнай птушкай.
Некаму дзяцей пагушкаць.
Хто ад голаду ўратуе
Беспрытульных, беспрытульных?

Крок да кроку – будзе срок,
Чорны крык сівых сарок.
За снягамі – зноў снягі,
А за крокам – крок другі.

Ліст ляціць лясной сініцай,
Толькі гэта будзе сніцца.
Будзе біцца у вакно
Ненароджанай вясной.

Крок на снезе, крок апошні
Стане зноў зялёнай пожняй...
Ты дайшоў да нас, паспеў
І пачуў анёлаў спеў.

**2**

Недзе крыкнула сарока,
Значыць хутка будзе ліст.
У вакна сляпое вока
Дзень святло сваё праліў.
Птушка-дзень, зямное дзіва
Не кранаецца травы.
– Мама, хутка будзе зліва!
Значыць, бацька наш жывы.

**3**

> “Харона адужылі
> Сцюжа і стома,
> Бо ў царстве Аіда
> Ні планаў, ні зім...”
> Р.Барадулін

А ўжо і Харон стаміўся,
Са сталі яго вясло,

І лівень на плечы ліўся,
І снег засыпаў чало.

Дрыжалі, гулі землятрусам
Старонкі драпежных вякоў.
Харон не прывык быць трусам
Адзін на адзін з ракой.

Адзін на адзін з журбою,
Самотнай, смяротнай мяжой.
Адзін са сваім спакоем.
Адзін з чужою бядой.

**4**

Ратуйце, сосны, птушак,
Свяціце ім ў дарозе,
Вы – свечкі гэтай пушчы,
Паходні на марозе.

Свяціце, сосны, птушкам
Адважным, летуценным.
Іх у нябёсы пусцяць
Забітых продкаў цені.

На вастрыні адвагі
І сонячных сумётаў
Гарацьжывыя душы
Тых, хто вучыў нас лётаць.

* * *

Звіні, звіні, званочак майго сэрца,
Палай, палай, агонь лясной зары.
Любоў жыве на ростанях, як вецер,
І марыць нас крылатымі стварыць.

Плыву у свет на лодачцы зялёнай
І падстаўляю сонечна крыло
Жывой вадзе, як птушцы пералётнай,
Якая песціць неба і далонь.

* * *

“Шукаю шчырую душу,
што адгукнецца мне ўзаемна...”
Р.Барадулін

Душа душу жыццё шукае
У вербалозах залатых,
На дыванах чароўнай ткалі
Садоў нябёсных і зямных.

Шукае знак ці, можа, погляд,
Радок таемны. Сэрца, вер!
Па нерушу нябёснай пожні
Душа пайдзе, як па траве.

* * *

Сорак год тапталі лапці
Адзінокія дарогі.
У далонь лясоў прыляжце,
Адпачніце ад знямогі.

Хто спяваў вам калыханку,
Хто па галаве пагладзіў?
У каханага каханка –
Толькі зорка у акладзе.

Толькі птушка, толькі знічка,
Толькі зрэбная трывога...
Я іду. Трымае нітку
Арыядна, свечка Бога.

* * *

Сэрца маё, нібы рэчка з жывою вадой.
Перайдзі уброд, не спужайся.
Пі з гаючых далоняў чароўны напой,
Са мной заставайся.

Вешчае каханне маё.
Як у небе птушка, як на зямлі крыніца,
Як гэтыя вербы ніцыя

Нашчыя экзатычнай зарой.

Іду за табой. Іду за табой...
Вяшчуе сэрца імя тваё
На гарачым пяску незнаёмай краіны.

**З цыклу “Мой Іерусалім”**

1
Мёртвае мора памяці,
Вуснаў спякотны боль.
Подыхам вешчай радасці
Сняцца мне жар і соль.

Світкам біблейскім, ведамі
Неба на плечы лягло.
Ведаю зараз, ведаю,
Тут адпявала Яго.

Косамі ўкрыла, косамі
Ад ледзяных вятроў,
А на каленях росамі,
Мірам Яго кроў.

Мора гаючае памяці,
Смоквы жывы агонь.
Лёд раўнадушша плавіцца
Ад цеплыні яго.

І прарастае крыламі,
Так, што дрыжыць зямля,
Над дзедавымі магіламі
Галінка мая.

2

*Марыі Магдаліне*

А болей няма нічога:
Ёсць толькі агонь і ты,
І ласка мудрага Бога,
І спаленыя масты.

І цішыня невяртання
Накрые сэрца тугой.
Ты першая і астатняя
І ўжо не будзе другой.

І кожны твой дзень – да Галгофы,
І кожны твой крок – да Яго...
Так нечы далёкі профіль
Стане бліжэй свайго.

**3**

І ўбачу профіль Магдаліны
На аксамітавай сцяне...
Якія вершы, песні, гімны
Яна складала па вясне?

І на якіх цяпер дарогах
Яе адбіліся сляды?
Усе пустэлі, як астрогі,
Усе сцяжынкі, як мяды.

Яго далоні цалавала
І мірам мазала чало.
Не чаравала – царавала,
Калі за вокнамі мяло.

Вятроў пустэлі соль і попел,
Нібы снягоў паўночных сум.
Адчую стомленую постаць
І распляту сваю касу.

І валасамі ногі ўкрыю,
І пацалую кожны крок...
Я у сабе нясу Марыю,
Яе натхненне, боль і кроў.

**4**

Прасілася, прасілася
Да вечара майго.
Зара мне ўчора снілася

У велічы Яго.

У вечнасці, у вечнасці
Няма імён і дат.
Я гэтым срэбным вечарам
Вяртаюся назад.

Наперад, у мінулае,
Завуць мяне вякі,
Праз камянёў адтуліны,
Праз ліхтары ракі.

Вяртаюся, вяртаюся
Да першацішыні.
Ва ўсіх грахах пакаюся
У сонцаглыбіні.

І падзялюся радасцю
З апошнім жабраком:
Бог велічы, Бог жаласці
Жыве за тым вуглом.

**5**

Вуглём напішу Яго імя
На аркушы свайго сэрца.
Смерці з гэтага часу няма.
Верце мне. Верце...

Верце ранкова-крылатай мне
І гэтай траве прыдарожнай.
Яго я шукала сярод камней
І на сцяжынцы кожнай.

А Ён быў заўсёды маім вакном,
Лазой сонцакрылай сцяліўся,
Сонцам і ветрам, новым радком
Сніўся і збыўся.

**Рагнеда**

**1**

Прыляцела ластаўка,
Прынясла мне шчасцейка.
Шчасцейка бяссоннае,
Сэрцайка калёнае.

**2**

**Варажба**

Чараўніца чаравала:
Подых, пёрка – і крыло…
Дзе зара была крывавай,
Пуцявіну замяло.

Як ляцеў па небу голуб,
Шызы голуб й залаты, –
Загубіўся ў лесе любы,
А нялюбы звёў масты.

Вёрсты, вёрсты… Снег патлаты
Азвярэў, нібыта воўк.
Сваты едуць, едуць сваты!
Чэзне свечка, ллецца воск…

**2**

**Крумкач**

Прыляцеў на падваконне,
У вачах – дажджы, дажджы…
Хто ты: шчасце або скон мой?
Любы, вораг мой, скажы.

Толькі чую – вецер, вецер…
Толькі бачу шлях завей.
Дзе ты лётаў, чорны свеце,
На якой заснеш траве?

І чыя душа жывая
Б’ецца, стукае ў вакно?
Дзе зара была крывавай,
Там дарогі замяло.

Крук самотны – крык адчайны.
Чую, чую – будзе кроў…
Над зямлёй маёй – маўчанне.
Чэзне ноч.

**3**

Чужая зямля –
Першая рана мая.
Рана другая –
Сукенка даўгая,
Вясельная.
На расе,
На чырвонай расе
Кахаў мяне любы.
Да згубы галубіў.
Да ночы урочыў.
Плашч апранаў сірочы.

**4**

**Уладзімір**

А зараз ты – княгіня.
Спужалася чаго? –
Што Полацк твой загінуў
Ад погляда майго.

Што аўдавелі жонкі,
Што палеглі сыны?
Ты кажаш, што я жорсткі,
Што спапяліў дамы.

Сватоў я слаў па чэсці,
Табе свой біў паклон,
Я шанаваў бы цесця,
Як трэба, за сталом

Па келіху б мы ўзнялі
За вольны наш саюз,
Калі б ты не пракляла
Усю сваю сям'ю.

Калі б ты не назвала
Рабычычам мяне,
Зязюля б не кувала

Сярод сівых камней.

І вёскі не гарэлі б,
Не распіналі б дзеў,
І рэкі не крывелі б…
Я на цябе глядзеў!

Сама цяпер рабыня,
Рагнеда-Гарыслава.
Калі зара астыне –
Ты будзеш гора славіць.

**5**
Гора, гора сіраціне.
Дагарае ясны месяц,
Сэрца паляць успаміны,
Галавешку хіба песцяць?

Як палалі нашы вёскі,
Толькі попел коўдрай слаўся.
Дагарэлі мае вёсны,
Снег застаўся.

Як чаўны плылі па рэчцы –
Крумкачы кружылі ў небе
І клявалі маё сэрца
Замест хлеба.

**6**
Ляцела галубка,
За ёй – чорны воран.
Мяне прыгалубіў
Ня любы, а вольны.

Дзе праўда, дзе здрада?
Прыйшоў – не пытаўся.
Да ночы сірочай
Са мною застаўся.

**7**
Паляцелі бацькі да выраю.

Раю-рай, сустрэнь іх ласкава,
Музыкай срэбнакрылаю,
Светла-зялёнай атавай.

Сёння ня спіцца. Буду маліцца
Дзядам і адзінаму Богу.
Рукі мае – крыніцы,
Праўда мая – дарога.

Бог мой – айчына, дай жа спачын ім!
Дзе яны, а дзе я?..
Травой зарастаюць магілы, а памяць
Гарыць, як мая зямля.

**8**

А душа душою тужыць,
А душа душой баліць.
Я пляту з хмарынак кужаль,
Ён не ўмее гаварыць.

Па сцяжынчцы сірочай
Пабягу ў гушчар лясны,
Стану я сястрою воўчай
На імгненне, да вясны.

Стану я сястрою ночы,
Нашча сэрца – далягляд.
Вып'ю келіх – буду танчыць,
Пацячэ жыццё назад.

Я дзяўчынкай так любіла
На Дзвіну глядзець з гары.
Недзе спіць мой Полацк мілы,
А душа зарой гарыць…

Паляцела б я галубкай
Ці бусліцай маладой.
Там мой бацька топіць грубку
І жыве каханы мой.

На хвілінку, на імгненне

Палячу на край зямлі.
Там гаворыць і каменне,
У мядах цвітуць палі.

Хто маю душу палечыць?
Вунь крумкач на хвоі спіць,
Пад крылом ракою вечнасць,
Я ня ў змозе пераплыць.

Апаліла даль світанкам,
Тоне, чэзне птушка-ночка…
А за ёю я падранкам.
А за мною сон сірочы.

**9**
Дзе гарэла папараць-кветка
Да зары,
Мне крумкач прынёс вестку.
– Гавары!

Гавары, пакуль вецер
Яшчэ родны, як брат.
Гавары, пакуль кветкі
Яшчэ сіла сабраць.

Пачакай, мая згуба,
Дыхай вольна душа.
Хто душу не галубіў –
Не напіўся з каўша.

Толькі кропля за кропляй
Пот каціўся, і кроў
Запякалася. Кросны
Ткалі зоркі без сноў.

І схіляліся песні
Да гаючай травы,
Там за права ўваскрэснуць
Йшлі ўміраць ваяры.

Мне каралі на шыі,

Як вяроўкі былі.
Я кашулю пашыла
Да зямлі, да зямлі…

А крумкач безпрытульны
(Ў зрэнках тухне зара):
– Хутка будзеш матуляй, –
Выгукнуў, як мара.

– Подых свечачкі-поўні,
Спомін траў і мядоў
Сэрца сына напоўняць.
Ён вярнецца дамоў.

Тут крумкач схамянуўся,
Да камення прынік.
Ноч-матуля мінула.
Белы дзень – чорны крык.

**10**

Як дзіўна, сэрца, і як страшна:
Мой валадар адзіны – кат.
Ён люты, гожы і адважны
І мне яго чакаць, чакаць...

Вяшчунка-доля так няўтольна:
Напіўшыся маёй крыві,
Яна сказала непрытомнай:
“Кахай, Рагнеда, і жыві”.

Мой князь, мой кат,
                    мой вораг любы,
Цябе Стрыбог на муку мне
Паслаў,
          на неварацц, на згубу,
На скон сярод нямых камней.

Гарэць, гарэць ў агні пякельным,
І ненавідзець, і кахаць…
Ды не ў палатах княжых – келлі
Цябе чакаць і праклінаць.

**11**
Пераверцень-трава, вярні сэрца.
Шэры дзень і шэрая ноч.
Некаханай лягчэй памерці
У прадонні гадоў і плошч.

Некаханай лягчэй да сонца,
Чым да сэрца каменнага зваць.
Дзе гняздзіцца тваё бяссонне,
Дзе твая, перасмешнік, раць?

**12**
Пякуча, балюча,
свет – здраджаны рай.
Народзіцца хлопчык,
а ты – памірай.
Ні ўсмешкі, ні ласкі –
адзін люты снег,
Твае пацалункі –
і боль мой, і грэх.
Мне неба, як глеба,
на плечы лягло,
Я твару прыпомніць
не ў змозе твайго.
І праўда нямее
ў крыклівых дварах,
Прызнацца не смею,
што кат ў галавах.
Стаіць у чырвоным
і пільна глядзіць,
Каб сына твайго
я змагла нарадзіць.

**13**
Спеленала б тваё блакітнавокае немаўля,
Ды калыскай цярновай стала зямля.
Да неба далёка,
Да сэрца глыбока.

Любы! Больш цябе не галубіць.

Мілы! Слабеюць ўжо крылы.
І бераг пастылы,
І сэрца астыла...

**14**
**Уладзімір**
Рукі твае халодныя,
Прыгалубь, Гарыслава.
Лёдам ты дыхаеш, лёдам,
Атрута – кожная страва.

Раўнуеш, напэўна? Ведаю
Жанчын я заморскіх, гарачых,
Толькі з табою-ведзьмаю,
Нібы ў дзяцінстве, плачу.

Літасцівы, мо, ягнёнак,
Хіба ты ня ведаеш, як
Чакаю я нашае ночы,
Як срэбнай манеты жабрак.

Як жытняга хлеба галодны,
Як каня кроплю дажджу…
А ты мне пад сэрца – лёдам,
А ты – паміж намі мяжу.

Рагнеда мая, Гарыслава,
Сцябліна на поўні дарог,
Калі б ты была ласкавай,
Я б сэрца сваё збярог.

**15**
Утравела, утравела
Маё сэрца, як ралля.
Над зямлёю вее вецер,
А хілюся долу я.

Мая доля, як няволя.
Люты княжа-вітруган,
Смагу ты калі спатоліш
Па крывавым батагам?

Па зняверaным чаканням,
Па спустошаным дварам?
Ты няўмольны, ты адчайны,
Побач так балюча нам…

**16**

Ты мяне не пачуеш, як і заўсёды.
Спіш. Спеюць яблыкі. Сохне трава.
Я караць цябе буду сёння.
Няма болей сіл трываць.

Вось лязо і адбітак пачварны ў глыбінях
Гэтай бездані-поўні – жаночай слязы.
Ты такі малады ва ўспамінах,
Але ў сэрцы тваім – маразы.

Замарозіў ты кветку. Я сёння пачвара.
Я – забойца. У скрусе стаю ля акна.
Дзе мая запаветная мара?
Дзе мая дарагая зямля?

Хіба лёгка забіць, калі жылка дрыжыць
На скроні тваёй, як жывая?
А ў вачах маіх – капяжы…
Будзе рана ў грудзях нажавая.

Як жа мне жыць, калі жылка дрыжыць,
І любыя дзеці паснулі?
Напэўна, дайшла да мяжы
І зверу ў ва мне няўтульна.

Ты, вораг мой, кат, вяртайся назад,
Туды, дзе пачатак дарогі,
Дзе маці маёй сляза
Абмыла бацькавы ногі.

Туды, дзе залой зара
І кроў на белай кашулі,
Дзе наша гарыць зямля –

Знайдзі свой спачын-прытулак.

Памры, мой каханы, ўраз!
Жыві, мой каханы, вечна!
Прымара зары, як мара,
Сціскае за плечы…

**17**
**Уладзімір**
Што ты робіш тут, Гарыслава?
Чаму твае рукі ў крыві?
Якое ты маеш права
Паміраць? Я сказаў – жыві!

Ці, можа, маёй ты смерці
Жадаеш. Чаго дрыжыш?
З табой нам доля адмерыла
Ісці па адным крыжы.

Мяжуе нянавісць з каханнем,
Мяжуе з жалем праклён,
Я першы твой і астатні,
Жах твой і лепшы сон.

Навошта сябе ты губіш?
Забудзь усё злое, забудзь!
Знякровіла помста губы,
Жаданаю жонкай будзь!

Знаеш, і мне, Гарыслава,
Памяць урочыць сны…
Ды лепшая мая слава –
Наша дачка і сыны.

Знаю – табе няўцешна,
Знаю – табе баліць…
Толькі святлу без ценю
Не бываць на зямлі!

**18**
**Пераўтварэнне**

Дзіўны сон мне сёння сніўся:
Я – дзяўчынка. Церам наш
Быццам купал сіні-сіні…
Нехта кажа ціха: “Ляж…”

І падлога ўраз травою
Прарасла і зацвіла.
Я пазнала яе мову,
Бо цвіла травою я.

Я была расой сусвету,
Верасоваю зарой,
Я была вадой і ветрам,
Голасам лясных звяроў…

Дзіўны сон, а можа памяць:
Кроў мая – лясы, палі…
Той агонь пакуту паліць,
Як салому на зямлі.

**19**

Сэрца маё самотнае,
Чорнае, як чарніца,
Ды ад агню смяротнага
Ратуе жывая крыніца.

Вось табе – поўня-паўнюткая.
Вось табе – жыва-жывучая.
Кветачкамі бялюткімі
Выткана воля гаючая.

**20**

Чорная сукня і белая ноч –
Родныя сёстры.
Слова “чарніца” нагадвае дождж,
Ніцыя вёрсты.

Божа, як светла, калі Ты са мной.
Пацеркай – ветах.
Я не скаруся смазе зямной,
Горычы свету.

**21**

Кажуць, дарога да храма,
Храм – у душы.
Рана мне, Божа, рана
Да нябёсных вяршынь.

Чорная хустка – здрада,
Белая хустка – лёс…
Бацюхна-бусел параду
Мне на крылах прынёс.

Келля – мая цямніца,
Сэрца – мой храм.
Гэтыя вербы ніцыя
Нікому я не аддам.

Гэтыя рукі белыя
Параю лебядзей
Крыж накладаюць смела
На рабацінне ў вадзе.

Вобраз твой, Уладзімір,
Хутка ў рацэ згарыць:
Люты, спачыне з мірам,
Міламу ў сэрцы жыць.

**22**

Дождж пралiецца –
стане светла душам.
На могілках падымецца трава.
І будзе вецер
песні маці слухаць,
А бацькава сівая галава
Вярбінаю нахіліцца да долу,
Да долу, да крыніцы,
да раллі…
Ваша дачка ўжо хутка будзе дома,
Яе краса,
нібы быльнёг,
згарыць.

І будзе вечнасць
спапяляць імгненні,
А воля захлынацца у крыві.
Рагнеда крыж сумленна будзе несці
Далёка ад радзімае зямлі.
“Дачушка, кветачка, –
Рагнедзе сніцца маці, –
Як дакранешся сонечнай мяжы,
Падуць замкі,
а дзверы будуць насцеж.
Душу сваю,
як неруш,
зберажы”.

**23**

Мой сынок, паглядзі на мяне.
Ты хіба не пазнаў матулю?
Я канаю сярод камней
Сівой ластаўкай беспрытульнай.

Толькі вочы яшчэ гараць.
У іх помста і памяць волі.
Маё сэрца даўно кара,
Не скаруся ні кату, ні долі.

Княжа мой, пакладзі ў труну
Васілёчкі з палёў радзімых,
І свяшчэнную даўніну,
І гаротны погляд Радзімы.

Абдымі мяне, неба, мацней.
Дзе кайданы хароняць песні,
Прыгадайце, людзі, мяне,
Калі я аднойчы ўваскрэсну.

**24**

У доме маім два акна,
Два розных жыцці-дарогі.
У першым – прывід вайны,
Ў другім – прыгажосць ад Бога.

Змяшаліся попел і кроў,
А хочацца жыць і маліцца.
Даўно чалавека баіцца
Світанак – прыстанак буслоў.

У першым акне – зіма,
Закідвае смецце парогі.
Тут кат чалавек дарагі,
І шыбеніцы, і астрогі…

Будуюць цэрквы ў другім,
Дзіцяці смяецца чыста…
Вокны мае – берагі,
Я рэчкай плыву агністай.

**25**

Зямля астывае пад вечар,
Птушкі ляцяць у вырай.
Душа – ты нябога вешчая,
Ластаўка срэбнакрылая.

Душа знае тое, што пішацца,
Баліць, і гарыць, і кахаецца,
Вярбінай пад небам калышыцца,
На полі гаротным змагаецца.

Душа скажа тое, што ведаю.
(Хутчэй чысты аркуш паперы!)
Бо веды рыфмую з вераю,
Кожнаму будзе па веры.